



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

18 лістапада 2016 года №47 (1125)


**КУПОН** на 50% зніжку на ўсе віды абанементаў у трэнажорную залу "Тытан".
старонка 22

**У Вілейцы аб'явілі конкурс на скульптуру маці**
старонка 2

**Маладзён разбіў машыну і застаўся ў ёй слухаць музыку і чакаць ДАІ**
старонка 4

**У Забароддзі правялі рэканструкцыю бою 100-гадовай даўніны**
старонка 5


**Ликвидация!!!**
и банкротство
юридических лиц и прекращение деятельности ИП
+375-29-633 02 29 ООО "Геката-партнер" УНП 692011079



ПРИГЛАШАЕМ НА РАБОТУ в магазин "**Закрама**" в Вилейке:
✓ **КАССИРА** з/п от 400 руб (4 000 000 руб)
✓ **ГРУЗЧИКА** з/п от 300 руб (3 000 000 руб)
Тел.: **(8029) 103-19-48, (8029)198-13-80, (8017) 308-16-02**
ООО "Закрамаркет" УНП 192511791



**Нам 3 года!**
Приглашаем НА ПРАЗДНИК
***26 ноября в 12.00, Молодечно, ул. Притыцкого, 12.***
Шоу-программа, мимы, призы и
**СКИДКИ на все 50%!!!**
Тел. **(80176) 77-41-97** ООО "БигПрайм" УНП 691511104


# На праект "Валожын без бар'ераў" выдзелены МІЛЬЁН ЕЎРА

**Якім чынам зменіцца горад за тры гады, чытайце ў матэрыяле**




**На здымку намеснік старшыні Беларускай асацыяцыі інвалідаў Сяргей Драздоўскі падчас візіту ў Галандыю.**

старонка 21

Фота забяспечанае Ганнай РЫЖАНЦОВАЙ.

# У Вілейцы аб'явілі конкурс на стварэнне скульптуры маці

ВІЛЕЙКА

**У наступным годзе ў гарадскім парку ў Вілейцы з'явіцца скульптура мамы з дзецьмі. Як яна будзе выглядаць? Пакуль ніхто не ведае.**

Ад 21 лістапада пачнецца конкурс на стварэнне скульптуры. Яго арганізаваў Вілейскі райвыканкам сумесна з фондам імя Еўфрасінні Полацкай.

Фонд выступіць спонсарам ў конкурсе скульптур.

Ідэя стварэння належыць спонсару. Калі прадстаўнікі фонду звярнуліся з прапановай у Вілейскі райвыканкам, іх падтрымалі:

– Тэма маці і радасці мацярынства вельмі актуальная ў нашым грамадстве, – упэўненая галоўны архітэктар.

### "Мама з дзецьмі" стануць цэнтрам ціхай зоны ў парку

Скульптурная кампазіцыя "Мама з дзецьмі" ўпрыгожыць паўднёвую частку парку. Тут будзе своеасаблівая "ціхая зона", спакойны куток з лаўкамі і сцяжынкамі.

Па словах галоўнага архітэктара раёна **Галіны Кажарновіч**, рабіць тут нешта спартыўнае і гучнае не варта. Побач знаходзіцца царква. Пасля ўстаноўкі да кампазіцыі зробяць падсветку.

Згодна з палажэннем, паўдзельнічаць у конкурсе змогуць як беларускія, так і замежныя скульптары. Адзіная ўмова – яны павінны быць дыпламаванымі спецыялістамі. Народныя ўмельцы тут праявіць свае здольнасці не змогуць.

Працаваць скульптар будзе ў творчым тандэме з **Людмілай Луцэвіч** – архітэктарам парку. Скульптуры трэба планаваць з прывязкай да канкрэтнай тэрыторыі.

Вось чаму, калі аўтар заявіць пра сваё жаданне паўдзельнічаць, яму дашлюць па "электронцы" генеральны план парку з указаннем канкрэтнага месца размяшчэння скульптуры і фотаздымак мясцовасці. Скульптар нават атрымае фотаздымак жанчыны, каб дасягнуць канцэптуальнага падабенства сваёй мадэлі і жанчыны з фота.

Конкурс будуць праводзіць у два этапы. На першым журы разгледзіць прапанаваныя мадэлі ў электронным выглядзе, на другім – аб'ёмную паменшаную мадэль будучай скульптуры.

Арыгінальную кампазіцыю зробяць з бронзы. А вышыня яе будзе 2 метры 20 сантыметраў. Па словах галоўнага архітэктара, гэта класічная вышыня для скульптуры. Так яна будзе лепш успрымацца.

Ролю журы выканае Мінскі абласны мастацка-экспертны савет па манументальным і манументальна-дэкаратыўным мастацтве. Тут на пасяджэнні вызначаць лепшую скульптурную кампазіцыю, якая і ўпрыгожыць парк.

### Двое ці пяцёра? Ніякай розніцы

Сюжэт кампазіцыі аўтар выбірае сам. Галоўнае, каб была мама з дзецьмі. Далей – прастор для творчасці.

– Колькі будзе дзяцей, двое ці пяцёра, хлопчыкі ці дзяўчынкі, не мае ніякай розніцы, – распавяла Галіна Кажарновіч.

Як скульптар увасобіць радасць мацярынства, гэта таксама яго справа. Ён можа гэта зрабіць традыцыйна, а можа ў алегарычнай форме.

Ствараць скульптуры будуць у даволі кароткі час. Конкурс пачынаецца 21 лістапада. Да 1 снежня прымаюць заяўкі. А да 23 снежня Мінскі абласны мастацка-экспертны савет ужо вызначыць лепшую скульптурную кампазіцыю і аб'явіць пераможцу.

У любым конкурсе ёсць узнагароды. Што атрымае скульптар-пераможца?

– Ён атрымае магчымасць рэалізаваць сваю ідэю. А гэта лепшая ўзнагарода для творцы, – упэўненая Галіна Кажарновіч.

Конкурс яшчэ не пачаўся. А заяўкі ад двух скульптараў ужо ёсць.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

У наступным годзе маленькія віляйчане будуць гуляць у парку ля скульптуры маці.

### Дзе яшчэ ў рэгіёне ёсць скульптуры маці

У Маладзечне скульптура жанчыны-маці ўпрыгожвае тэрыторыю ля радзільнага дома. Як расказаў былы галоўны доктар горада **Казімір Клыга**, будынак радзільнага дома здалі ў 1973 годзе.

Скульптуру ж устанавілі ў канцы 1970-х гадоў. Прадстаўнікі тагачаснага кіраўніцтва вобласці, распавёў доктар, любілі, каб ля медыцынскіх устаноў быў парадак і прыгажосць.

У савецкія часы раддом Маладзечна быў школай перадавога досведу былога СССР. Сюды часта прыязджалі розныя дэлегацыі.

Скульптуры стварылі, перш за ўсё таму, што ўстанова – выключна жаночая. Ды і для прыгажосці таксама, распавёў Казімір Клыга.

У Валожыне такой скульптуры няма. Але ёсць алея Маці. Па словах **Вікенція Адамовіча**, начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Валожынскага райвыканкама, яе пасадзілі некалькі год назад з непладовых дрэў ля будынка Валожынскага музея. У пачатку алеі ёсць прыступкі і памятны камень, дзе паведамляецца, што алею пасадзілі ў гонар матуль.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Надыходзячая зіма будзе самай халоднай за апошнія 100 гадоў



Фота pobedpo.com.

Паводле прагнозу нямецкага метэаролага **Домініка Юнга**, будучая зіма паб'е рэкорды апошніх ста гадоў як самая халодная.

Таксама навуковец паведаміў, што ў гэтым годзе ў зімовыя месяцы мы амаль не ўбачым сонца, а самыя нізкія тэмпературы прыйдуцца на студзень і люты.

Акрамя таго, узімку 2016-2017-га ў Еўропу прыйдуць арктычныя паветраныя масы.

"Гэты феномен звязаны з парушэннем руху паветраных мас. З поўдня прыйшлі цыклоны, якія выклікалі снегапады і буры. За імі рушаць услед халодныя масы арктычнага паветра. Звычайная змена формаў руху звязаная з сонечнай актыўнасцю", – тлумачаць навукоўцы.

Для Еўропы гэта трывожны прагноз, таму што будучы сезон абяцае быць не толькі надзвычай халодным, але і вельмі доўгім – метэаролагі папярэджваюць і пра позні пачатак вясны (не раней за красавік 2017 года).

Аддзел інфармацыі.

## "Рэгіянальная газета" атрымала чатыры дыпломы на конкурсе Асацыяцыі рэгіянальнай прэсы

**Супрацоўнікаў уганаравалі ў чатырох намінацыях. Узнагароджанне прайшло 11 лістапада ў Мінску.**

У журы працавалі беларускія эксперты і журналісты **Аляксандр Коктыш, Сяргей Гудзілін, Андрэй Пачобут, Вінцук Вячорка**.

"РГ" стала фіналістам у намінацыі "Найлепшы інтэрнэт-сайт газеты".

Фіналістамі сталі наступныя работы журналістаў "РГ".

У намінацыі "Гісторыя і краязнаўства" ў фіналісты выйшаў артыкул загадчыцы аддзела інфармацыі "РГ" **Зоі Хруцкай** "Мы прыехалі на святое месца, дзе косці расстралянага бацькі".

У намінацыі "Лепшае журналісцкае расследаванне і зваротная сувязь з чытачамі" ў фіналісты выйшаў артыкул **Наталлі Тур** "Каб даць жыллё, шматдзетнай маці прапанавалі ўзяць прыёмных дзяцей".

У намінацыі "Найлепшы відэаматэрыял" перамагла апытанка Зоі Хруцкай і **Настассі Роўды** "Нобель? Не, не чуў". Што адказвалі ў Маладзечне на пытанне: "Як вы ставіцеся да нобелеўскай прамовы Алексіевіч?"

У конкурсе ўдзельнічалі 12 лакальных выданняў Беларусі.



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Зоя Хруцкая і Наталля Тур пасля ўзнагароджання.

Летась па выніках гэтага конкурсу "РГ" стала найлепшай рэгіянальнай газетай 2015 года. Сёлета гэты статус атрымала баранавіцкая газета "Інтэкс-прэс".

Аддзел інфармацыі.

# Што трэба ведаць, каб перажыць зіму без траўмаў

**У зімовы перыяд павялічваецца колькасць зваротаў па медыцынскую дапамогу ў сувязі з траўмамі рук, ног: вывіхамі, расцяжэннямі звязак, пераломамі.**

Узровень траўматызму на 90% залежыць ад знешніх і ўнутраных фактараў. Да знешніх адносяцца стан аўтамабільных дарог, прыпынкаў транспарту, тратуараў і пешаходных зон, якасць іх догляду і прыбірання, своечасовае чышчанне наледзі і апрацоўка супрацьгалалёднымі сродкамі ганкаў і прыступак будынкаў і збудаванняў, ледзяшоў і снегу на скатных дахах будынкаў.

### Што варта ўлічыць жанчынам

Унутранымі фактарамі з'яўляюцца: прытрымліванне тэхнікі бяспекі, прынцыпаў бяспекі, правілаў дарожнага руху, здаровага ладу жыцця. Асаблівую ўвагу трэба надаць вопратцы і абутку, прызначаным для зімовых умоў. Спрыяе росту траўматызму абутак на высокім абцасе. У ім лёгка спатыкнуцца і ўпасці.

> **Я заклікаю дзяўчат і жанчын быць асцярожнымі зімой, не рызыкаваць, адпраўляючыся на працу ў абутку на высокіх абцасах.**

Лепш, калі падэшва будзе з буйной рабрыстасцю, якая не слізгае. У галалёдзіцу хадзіць трэба па-асабліваму, не так, як на подыуме, а як мага марудней – як бы слізгаць, нібы на маленькіх лыжах. Быць ўважлівымі і пільнымі пры пад'ёме на прыступкі, бардзюры.

### Паклапаціцеся пра сталых людзей і дзяцей

Сталым людзям рэкамендуецца прымацоўваць на падэшву абутку адмысловыя "супрацьгалалёдныя" накладкі, выкарыстоўваць для дадатковай апоры кій.

Важна навучыць дзіця тэхніцы бяспекі пры катанні на лыжах, каньках, санках – умення падаць, згрупаваўшыся. Пры падзенні нельга выстаўляць руку для апоры, каб утрымаць раўнавагу! Найбольш распаўсюджаныя траўмы – пераломы рук – узнікаюць менавіта з-за таго, што, падаючы, чалавек інстынктыўна выстаўляе наперад руку і падае на яе ўсёй вагой цела.



Фота Наталлі ТУР.

**Якая зіма без снежных забаў! Але трэба паклапаціцца, каб дзіця ведала элементарныя правілы бяспекі.**

### Што павінны зрабіць кіраўнікі арганізацый

Кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый, у штаце якіх ёсць работнікі па прыбіранні тэрыторый, дворнікі, вартаўнікі, трэба арганізаваць своечасовае, да пачатку работы ўстаноў, чышчанне пешаходных дарожак, прыступак ганкаў, пандусаў ад ледзяных і снежна-ледзяных утварэнняў, апрацаваць іх супрацьгалалёднымі сродкамі. Калі прыступкі ганка не абсталяваныя поручнем, на іх укладзеная слізкая плітка, то неабходна на зіму заслаць іх спецыяльна замацаваным супрацьслізготным сінтэтычным пакрыццём ці пакласці драўляныя шчыты.

Маюць рацыю тыя неабыякавыя грамадзяне, якія робяць адпаведны запіс аб неналежным утрыманні прыступак ганка або прылеглай тэрыторыі арганізацыі або ўстановы ў Кнігу скаргаў і прапаноў. Такая кніга ёсць у кожнай арганізацыі, установе і нават кіёску, і выдаць яе абавязаныя па першым патрабаванні.

### Якія штрафы чакаюць за непачышчаны снег

За несвоечасовую чыстку ад снежных і снежна-ледзяных утварэнняў прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу да 25 базавых велічынь, на ІП – ад 10 да 50 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – ад 20 да 100 базавых велічынь.

Спецыялісты Маладзечанскага занальнага ЦГЭ праводзяць штодзённы маніторынг, за тыдзень агледзелі тэрыторыі 37 арганізацый, далі 15 рэкамендацый па ліквідацыі парушэнняў.

**Міхаіл МІХАЛЕВІЧ, доктар-гігіеніст, загадчык аддзялення камунальнай гігіены, нагляду і кантролю за гігіенічнай бяспекай тавараў народнага спажывання Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

От мечты до авто - один кредит!
Станислав из Сланцево уже выиграл Nissan Terrano
Оформи кредит и выиграй:
Nissan Terrano
Кухонный комбайн Moulinex
x 34
IdeaBank
Вилейка
ул.17 Сентября, 29 (Дом Быта)
+375 29 644 34 73, +375 29 500 12 78

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 10.11 | 17.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9083 | **1,9498** |
| Еўра | 2,1332 | **2,0892** |
| Злоты, 10 | 4,8655 | **4,7920** |
| Расійскі рубель, 100 | 2,9820 | **3,0156** |
| Грыўня, 100 | 7,4585 | **7,5124** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 9.11 і 16.11** | | |
| Еўра | 2.0900/2.1340 | **2.0800/2.1150** |
| Долар ЗША | 1.8900/1.9100 | **1.9350/1.9600** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 9.11 | | 16.11 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 71 300 | 7,13 | 71 300 | 7,13 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 36 500 | 3,65 | 36 500 | 3,65 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | 7,50 | 75 000 | 7,50 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 135 000 | 13,50 | 145 000 | 14,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 500 | 1,55 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 14 000 | 1,40 | 14 000 | 1,40 |
| Алей "Фермер", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 45 000 | 4,50 | 45 000 | 4,50 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | 0,59 | 5 900 | 0,59 |
| Часнок, 1 кг | 69 900 | 6,99 | 69 900 | 6,99 |
| Капуста, 1 кг | 2 500 | 0,25 | 2 500 | 0,25 |
| Морква, 1 кг | 4 900 | 0,49 | 4 900 | 0,49 |
| Баклажаны, 1 кг | 60 000 | 6,00 | 48 500 | 4,85 |
| Лімоны, 1 кг | 33 000 | 3,30 | 33 500 | 3,35 |
| Апельсіны, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 29 900 | 2,99 |
| Мандарыны, 1 кг | 29 900 | 2,99 | 34 500 | 3,45 |
| Гранаты, 1 кг | 29 500 | 2,95 | 29 500 | 2,95 |
| Ківі, 1 кг | 32 500 | 3,25 | 29 900 | 2,99 |
| Буракі, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 4 000 | 0,40 |
| Памідоры, 1 кг | 19 500 | 1,95 | 24 900 | 2,49 |
| Агуркі, 1 кг | 23 000 | 2,30 | 34 500 | 3,45 |
| Перац, 1 кг | 39 500 | 3,95 | 39 500 | 3,95 |
| Грэйпфрут, 1 кг | 34 500 | 3,45 | 34 500 | 3,45 |
| Вінаград, 1 кг | 33 000 | 3,30 | 33 000 | 3,30 |
| Бананы, 1 кг | 20 900 | 2,09 | 19 900 | 1,99 |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | 0,99 | 9 900 | 0,99 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 24 900 | 2,49 | 24 900 | 2,49 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Масла, 1 кг | 110 000 | 11,00 | 110 000 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | 0,25 | 2 000 | 0,20 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 30 000 | 3,00 | 30 000 | 3,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

## Як будуць пераносіць рабочыя дні ў 2017 годзе

Графік пераносу зацвердзіў Савет Міністраў.

Замест панядзелка, **2 студзеня**, рабочай будзе субота, **21 студзеня.**

З панядзелка, **24 красавіка**, рабочы дзень перанеслі на суботу, **29 красавіка.**

З панядзелка, **8 мая**, – на суботу, **6 мая**.

З панядзелка, **6 лістапада**, – на суботу, **4 лістапада.**

Арганізацыі маюць права з улікам спецыфікі вытворчасці пераносіць рабочыя дні ў адпаведнасці з заканадаўствам.

**Аддзел інфармацыі.**

## Увага! РАУС шукае чалавека, якога падазраюць у разбоі

**МАЛАДЗЕЧНА**



Маладзечанскі РАУС шукае **Дзмітрыя Пятровіча Шчарбітава** за здзяйсненне злачынства па артыкуле 207 Крымінальнага кодэкса Беларусі – разбой.

Дзмітры Шчарбітаў нарадзіўся 14 лютага 1980 года. Зарэгістраваны па адрасе: горад Валожын, вуліца Партызанская, дом 6, кватэра 69.

Міліцыя просіць грамадзян, якім вядома аб месцазнаходжанні Дзмітрыя Шчарбітава, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **8-0176-77-16-47; 8-029-702-88-96**, або па тэлефоне **102.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Знік 21-гадовы маладзечанец

**МАЛАДЗЕЧНА**

Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае зніклага **Артура Ігаравіча Валасевіча**.

Ён нарадзіўся 25 верасня 1995 года. Жыве ў Маладзечне па вуліцы Тамары Дудко.

27 кастрычніка ён пайшоў з дома, і цяпер месца яго знаходжання невядомае.

На выгляд 20 год, рост 160-170 сантыметраў, хударлявы. Бледны твар, шэрыя вочы, прамыя чорныя валасы. 40-41 памер абутку.

Быў апрануты ў балонневую куртку, сінія джынсы, світар у шэрасінія палоскі, карычневыя паўботы.

Просім, калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміце ў міліцыю па нумарах: **(80176) 77-03-12, 77-16-56** ці **102**.

**Сяргей АПАНАСЕВІЧ,**
**оперупаўнаважаны Маладзечанскага РАУС.**

## Шукаюць мужчыну з сівымі валасамі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Маладзечанская міліцыя шукае зніклага **Уладзіміра Іванавіча Сіверына.**

Нарадзіўся 11 верасня 1969 года. Жыве па вуліцы Францішка Скарыны ў Маладзечне.

13 верасня пайшоў з дому, і дагэтуль месца яго знаходжання невядомае.

Зніклы Уладзімір Сівярын.

На выгляд яму 50 год, рост 160-175 сантыметраў, хударлявы. Чырвоны твар, блакітныя вочы, нос з гарбінкай. Прамыя сівыя валасы. 41-42 памер абутку.

Калі вы ведаеце пра месцазнаходжанне зніклага, калі ласка, паведаміце па тэлефонах: **(80176) 74-96-83, 77-03-12, 77-16-56** ці **102**.

**Юры ЛЯВОНЕЦ,**
**оперупаўнаважаны Маладзечанскага РАУС.**

## Вяртаўся з працы з Астраўца і загінуў, наехаўшы на ласяя

**АСТРАВЕЦ**

На аўтадарозе Мінск-Гродна ў Іўеўскім раёне загінуў кіроўца "Фіята", які вяртаўся з вахты з Астраўца.

У кіламетры ад вёскі Сонтакі з правага боку ад машыны выбег лось. Пасля наезду на яго "Фіят" сутыкнуўся з сустрэчным "Фольксвагенам".

Кіроўца "Фіята" загінуў на месцы. У машыне былі тры пасажыры. Двух з іх шпіталізавалі, трэці не пацярпеў.

**Паводле Гродзенскай ДАІ.**

ЦЕНТРАЛЬНЫЙ (г. МИНСКА) ОТДЕЛ
Департамента охраны МВД Республики Беларусь
приглашает на службу на должности:
• МИЛИЦИОНЕРА
• МИЛИЦИОНЕРА-ВОДИТЕЛЯ
Требования: возраст до 28 лет, образование не ниже среднего, годные к строевой службе
Предлагаем: стабильную зарплату, полный соц.пакет, общежитие или компенсация за найм жилья,
З/п от 6 000 000 руб. (600 руб.)
Тел. 8 (017) 327-38-08, 8 (044) 734 25 34
8 (029) 701 42 65, 8 (017) 203 46 95
УНП 100060804

Партизанский (г. Минск) отдел Департамента охраны МВД РБ приглашает на службу на должности
• МИЛИЦИОНЕРОВ
• МИЛИЦИОНЕРОВ-ВОДИТЕЛЕЙ
лиц, с образованием не ниже среднего, отслужившие в армии или с высшим образованием, годных к строевой службе, возраст до 25 лет
иногородним предоставляется общежитие
кандидаты имеют возможность пройти льготное обучение на курсах водителей кат. В
Тел.: (017) 245-67-83
8 (029) 550 05 63, 8 (029) 124 34 57
Обращаться: г. Минск, ул. Уральская, 9-6
УНП 100349886

# Маладзён разбіў машыну і застаўся ў ёй слухаць музыку



Да маладога чалавека з Ракава так хутка разбіць машыну атрымоўвалася толькі ў героя Джыма Керы ў фільме "Эйс Вентура". Скрыншот з гэтага фільма.

**ВАЛОЖЫН**

### Самае дзіўнае, што на гэтыя "подзвігі" яму спатрэбілася сем хвілін.

А адбылося ўсё ў пятніцу, 4 лістапада.

19-гадовы жыхар Ракава, які ўжо быў летась асуджаны за крадзеж матацыкла, звярнуўся з просьбай да свайго знаёмага.

Ён папрасіў падвезці яго да яшчэ аднаго знаёмага, каб узяць у таго калонкі.

Гаспадар машыны пагадзіўся, але сказаў, што яму трэба на хвілінку па асабістых справах заскочыць у банк.

Прыпаркаваўшыся каля банка, гаспадар заглушыў матор і пакінуў ключы ў замку запальвання.

Нецвярозы пасажыр, пачакаўшы некалькі хвілін, вырашыў так: "Чаго я буду чакаць сябра, тут жа недалёка, хуценька пад'еду, забяру калонкі і прыпаркуюся зноў тут. Гаспадар нават не заўважыць".

Але, як толькі сеў за руль, праз 300 метраў гора-угоншчык ускочыў на бардзюр. Ад чаго пярэдняе кола ў машыны лопнула. Але гэта не спыніла парушальніка. Ён заехаў на газон, павіляў па ім і ўрэзаўся ў дрэва. Калі зразумеў, што рух працягнуць не зможа, уключыў у машыне магнітолу і стаў слухаць музыку і чакаць і гаспадара, і ДАІ.

А ДАІ выклікалі пільныя жыхары Ракава, якія заўважылі, як нецвярозы кіроўца ездзіць па газонах.

Супраць парушальніка ўзбуджаная крымінальная справа.

– А ўлічваючы тое, што папярэдняя судзімасць у яго не закрытая, маладому чалавеку пагражае да пяці гадоў зняволення, – расказала "Рэгіянальнай газеце" следчая Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч**.

**Наталля ТУР.**

## Ашмянец забыўся барсетку, а выклікаў міліцыю быццам бы за крадзеж

**МАЛАДЗЕЧНА**

6 лістапада ў 19:20 у міліцыю звярнуўся 47-гадовы жыхар Ашмянаў. Ён паведаміў, што на прыпынку вуліцы Будаўнікоў нехта скраў у яго барсетку, у якой было каля 500 долараў ЗША, банкаўскія карткі, дакументы.

Як аказалася пасля, ашмянец проста па сваёй няўважлівасці забыўся гэтую барсетку на прыпынку. А знайшоў яе работнік магазіна.

Слесар-рамонтнік пасля работы збіраўся ехаць дамоў, прыйшоў на прыпынак і там знайшоў барсетку. Прынёс яе ў магазін, дзе працаваў. Там ахоўнікі выклікалі міліцыю і расказалі пра знаходку.

У выніку барсетку вярнулі яе ўладальніку.

– Ці падзякаваў гаспадар барсеткі таму, хто яе знайшоў, невядома. Затое маладзечанская міліцыя выказвае падзяку **Алегу Мацкевічу** за адказнасць і сумленнасць, – сказаў намеснік начальніка Маладзечанскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Уладзімір Васількоў**.

**Наталля ТУР.**

## На Мядзельшчыне "Аўдзі" сутыкнулася з МАЗам

**МЯДЗЕЛ**

Адбылося гэта а палове сёмай раніцы 10 лістапада на аўтадарозе Мінск-Калачы-Мядзел паблізу вёскі Гарадзішча Мядзельскага раёна. 65-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Аўдзі-80" у напрамку Мядзела. Ён не справіўся з кіраваннем, і машына выехала на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнулася з МАЗам. Кіраваў ім 26-гадовы мужчына.

У выніку аварыі кіроўцу "Аўдзі" з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай і шматлікімі пераломамі даставілі ў бальніцу.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## Валожынец запрасіў да сябе на дзень нараджэння і ўгнаў у госця машыну

**ВАЛОЖЫН**

Гісторыя здарылася ў Валожыне ў канцы кастрычніка. 23-гадовы валожынец патэлефанаваў свайму сябру, каб запрасіць таго на святкаванне свайго 24 дня нараджэння.

Сябар, вядома, пагадзіўся.

Прыехаў на машыне, а ключы кінуў на канапу.

Святкаванне зацягнулася. Ад колькасці выпітых спіртных напояў гаспадар машыны заснуў у гасцях.

Тады імяніннік узяў ключы ад машыны і перапаркаваў яе ў іншае месца, а назаўтра сеў за руль і збіраўся ехаць па справах, але гаспадар машыны ўжо паспеў у міліцыю паведаміць пра ўгон.

Цяпер справа накіраваная з суд. Расказаў гісторыю следчы Валожынскага РАСК **Вячаслаў Белановіч.**

**Наталля ТУР.**

## Дэкада "Дзяржтэхагляд" пройдзе 21-30 лістапада

**МАЛАДЗЕЧНА**

Маладзечанскі аддзел ДАІ у межах рэспубліканскай акцыі арганізуе рэйды, каб выявіць транспартныя сродкі з не пройдзеным ва ўстаноўленыя тэрміны дзяржаўным тэхнічным аглядам.

Асаблівая ўвага будзе накіраваная на транспартныя сродкі, якія належаць юрыдычным асобам і ІП, якія ажыццяўляюць перавозку пасажыраў, аўтамабілямтаксі. А таксама на тыя аўтамабілі, чый тэхнічны стан (эксплуатацыя на шынах, якія маюць недастатковую вышыню малюнка пратэктара, плёначнае пакрыццё шкла (шторкі), усталяваныя самастойна фары з "ксенонам") можа выклікаць пытанні.

Акрамя таго, будзе актывізаваная работа па выяўленні вадзіцеляў, якія эксплуатуюць транспартныя сродкі з падробленымі адзнакамі аб праходжанні дзяржаўнага тэхнічнага агляду.

**Аддзел інфармацыі.**

# Пераможца конкурсу "Дзясятачка":

## калі мне тэлефанавалі з газеты, не хацела браць трубку

МАЛАДЗЕЧНА

**Хаця пераможцу конкурсу "Дзясятачка" мы вызначылі ў рэдакцыі яшчэ два тыдні таму, але з ёй самой пазнаёміліся толькі на гэтым.**

Справа ў тым, што ў школах былі канікулы, а нам вельмі хацелася ўручыць галоўны прыз конкурсу – планшэт – васьмікласніцы **Юліі Дземідовіч** у класе, сярод аднакласнікаў, у прысутнасці класнага кіраўніка і дырэктара школы.

Юля да сустрэчы рыхтавалася, хвалявалася і вельмі яе чакала.

– Я ўпершыню выйграю ў конкурсе, тым больш такі каштоўны прыз! – прызналася школьніца, сціскаючы ў руках запаветную скрыначку.

А пра конкурс даведалася ад сваёй настаўніцы па біялогіі.

– Вечарам прыйшла дадому, расказала маме, мама назаўтра пайшла ў кіёск і купіла ажно пяць газет. Потым праз тыдзень яшчэ пяць, потым яшчэ.

Юлі толькі і заставалася, што выразаць бланкі, упісваць у іх атрыманыя дзясяткі і дзявяткі і даваць настаўнікам на подпіс. А дзясятак у дзяўчыны многа.

– Так, я выдатніца. Але з усіх школьных прадметаў больш за ўсё люблю нямецкую мову і хімію. І вельмі хачу, каб будучая прафесія была звязаная таксама з нямецкай мовай.

У той дзень, калі Юлі патэлефанавалі з рэдакцыі, яна знаходзілася на ўроку матэматыкі.

– Калі ўбачыла на экране тэлефона незнаёмы нумар, спачатку нават не хацела браць трубку. А потым, калі мне сказалі, што тэлефануюць з газеты, падумала, што выйграла майку ці бірульку. Калі ж мне сказалі, што я выйграла планшэт, не магла паверыць сваім вушам.

Юля вярнулася ў клас, падзялілася радасцю з аднакласнікамі і настаўніцай.

– А потым не вытрымала: папрасілася выйсці, каб патэлефанаваць сваёй маме.

Юля – не адзіная дачка ў сям'і. У яе ёсць яшчэ малодшая сястрычка **Ксюша**, якой шэсць гадоў, і брацік **Кірыл**, якому адзін год і восем месяцаў.

А яшчэ Юля спявае ў студыі "Жывы гук" Палаца культуры і вучыцца ў музычнай школе па класе акардэона.

– А з гэтага года я ўзяла яшчэ гітару. Музыка – гэта здорава, але ні артысткай, ні музыкантам быць не планую.

Наталля ТУР.




Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Пераможца конкурсу "Дзясятачка" Юлія Дземідовіч, вучаніца 8 "А" класа СШ №5 Маладзечна.

● КОНКУРС "А Ў МАЁЙ КУХНІ..."

# "Мы можам паабедаць паасобку, павячэраць у розны час, але паснедаць разам – закон"

## Такія правілы дзейнічаюць на кухні сям'і Кічыгінай-Таляніных

**Якія сюрпрызы чакалі сям'ю Таляніных, калі яны рабілі рамонт на кухні?**

Калі тэлевізар на кухні пад забаронай, што можа замяніць яго?

Трэцім удзельнікам конкурсу "А ў маёй кухні..." стала **Алеся Кічыгіна**. Праект мы рэалізуем на сайце ў рубрыцы "Наша кухня".

Жанчына адзначыла, што кухня – гэта месца, дзе ўся сям'я збіраецца за сняданкам, для сям'і гэта закон.

– Мы можам паабедаць паасобку, павячэраць у розны час ці нават, як я, адмовіцца ад вячэры, папіць чаю ў гасцёўні, – зазначае гаспадыня. – Аднак сабрацца разам за сняданкам, ці гэта будны дзень, ці выхадны альбо свята, мы павінны на кухні.

У будні сняданак гатуе муж Алесі **Андрэй Талянін**, у выхадныя гэтым яна займаецца сама. У сям'і ў кожнага ёсць свой любімы "яечны сняданак": у сына **Паўла** – сонейка ў доміку, у мужа – амлет патурэцку, Алеся любіць яйкі пашот.

– Рамонт на кухні рабілі самі. Насуперак распаўсюджанаму меркаванню, нават паклеілі самі шпалеры і развесціся не захацелася, – усміхаецца жанчына. – Кухонны гарнітур замаўляла сама, для мужа быў сюрпрызам яго колер. Для мяне сюрпрызам аказалася карціна над абедзенным сталом. Бытавую тэхніку выбіралі разам, але і тут мяне чакаў падарунак – кававарка, якую атрымала на дзень бухгалтара.

У сям'і Таляніных на кухні прынцыпова няма тэлевізара, затое ёсць аўдыёсістэма. І калі яны мыюць посуд альбо гатуюць, кожны знаходзіць музыку па густу.

– Муж слухае радыё, сын модных ды-джэяў праз інтэрнэт, а я дыскі любімых выканаўцаў, – дзеліцца Алеся. – Што датычыцца рамонту, то ў гэтай сферы мы можам даваць парады ахвотным, бо рамонт з кухні плаўна перайшоў у гасцёўню. Але самае прыемнае тое, што рамонт рабілі самі.

Аддзел інфармацыі.

*Дашлі **фотаздымак кухні,***
*атрымай*
РАМАНТЫЧНУЮ ВЯЧЭРУ
*на дваіх у кавярні "Блюз", Маладзечна,*
СЯМЕЙНУЮ ФОТАСЕСІЮ
*ад фатографа Святланы Сеннікавай*
*і фатографа-пачаткоўца*
*Яўгена Чарнышова*
*Работы на конкурс "А ў нашай кухні..." можна дасылаць*
***ДА 25 ЛІСТАПАДА***
*на электронную пошту **regionnews@rh.by**.*
*Падрабязнасці на сайце rh.by у рубрыцы "Наша кухня".*

# Каб не здавалася, што скура абгарэла на сонцы




**Якой касметыкай карыстацца жанчыне-восені**

Працягваем цыкл артыкулаў пра прыгажосць і стыль. Сёння абсалютная чэмпіёнка Беларусі па макіяжы дырэктар вучэбнага цэнтра "Сфера прыгажосці" **Святлана Прадуха** раскажа, як вызначыць свой колератып.

Іх некалькі: вясна, лета, восень і зіма, ёсць змешаныя. Тып вызначаецца колерам валасоў, вачэй, адценнем скуры.

Пачнём з дастаткова рэдкага, але надзвычай асаблівага – восеньскага. У жанчын гэтага тыпу

• валасы медна-русыя, бронзавыя, медна-каштанавыя, залаціста-каштанавыя;
• вочы цёмныя каразялёныя, янтарна-карычневыя, зялёна-блакітныя;
• скура персікавая, жоўта-бэжавая, ружова-бэжавая.

Калі вы пазналі ў апісанні сябе, у адзенні выбірайце карычнева-чырвоны, залаціста-мядовы, аранжава-чырвоны, медны, слівавы, марской хвалі, аліўкавы і іншыя колеры. Самыя выйгрышныя – аранжавы і яго варыяцыі.

**НЕ ПАДЫХОДЗЯЦЬ** халодныя адценні (сіні і сіне-фіялетавы), чорны, лепш замяніце чырвона-карычневым, цёмна-аліўкавым колерамі.

**ПАЗБЯГАЙЦЕ** неонава-аранжавых адценняў.

Гэтыя ж прынцыпы дзейнічаюць і пры афарбоўцы валасоў. Не фарбуйце валасы ў попельна-светлы, сінявата-чорны і іншыя колеры з халодных адценнямі. На фоне халоднага колеру валасоў восеньскія вяснушкі пачынаюць "палаць", складаецца адчуванне абгарэлай на сонцы скуры.

### Касметыка

**Танальная аснова**

Прытрымлівайцеся цёплых колераў, падыдзе бэжавы, персікавы тон. Для маскіроўкі кругоў пад вачамі ці пігментных плямаў – карэктар з лёгкім жоўтым адценнем.

**Пудра** – празрыстая і бясколерная, асабліва, калі ў вас светлая скура. Выкарыстоўваць пудру можна і ў якасці румянаў – прадстаўніцам гэтага тыпу дастаткова вылучыць лінію скулаў бранзатарам альбо цёмнай пудрай.

Выбіраеце **румяны** – спыніцеся на абрыкосавых адценнях, для уладальніц цёмнай скуры – карычнева-залатыя тоны.

**ПАЗБЯГАЙЦЕ** ў макіяжы халодных адценняў пудры і танальных асноў, асабліва з шэрым адлівам, ружовых адценняў румянаў і танальнай асновы, цёмна-карычневай пудры.

### Цені

Жанчына-восень ад прыроды ўзнагароджана выразным колерам вачэй. Таму іх можна і не фарбаваць. Днём дастаткова нанесці толькі туш альбо аловак для вачэй, для вячэрняга макіяжу дадаць цені ізумрудна-зялёнага, залацістага, персікавага, ліловага і баклажанавага, светла-бэжавага, карычневага, медна-карычневага, бронзавага колераў.

Папулярны макіяж "смокі-айз" вам **НЕ ПАДЫДЗЕ**, будзе выглядаць вельмі насычаным і цяжкім.

**Памада** падыдзе светла-карычневая, карамельная, медная, аранжава-чырвоная.

Пазбягайце бэзавых, ружовых, фіялетавых адценняў памады.

Жанчына-восень можа дазволіць сабе яркі макіяж, аднак акцэнт неабходна рабіць на вусны альбо на вочы.

Калі хочаце больш даведацца пра свой тып, якая касметыка вам падыходзіць, запрашаем на навучанне ў вучэбны цэнтр "Сфера прыгажосці" на курс "Макіяж для сябе". Зрабіце сабе навагодні падарунак і адкрыйце ўсе грані сваёй прыгажосці.

*Вучэбны цэнтр "Сфера прыгажосці" запрашае на курс "Макіяж для сябе"*
Навучае чэмпіёнка краіны па макіяжы Святлана Прадуха
Цану, час заняткаў узгадняйце па нумары
**(8 029) 987-41-39**
***Маладзечна, Маркава, 16***
ІП Прадуха С.В.
УНП 691511569

# Зборнікі вершаў і паэтычных перакладаў паэтаў рэгіёна выйшлі ў Расіі

**ВІЛЕЙКА, ВАЛОЖЫН, МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ**

У расійскім Таганрогу выйшлі кніжкі вершаў **Ганны Косцень** з Вілейкі, **Крысціны Гарвер** і **Міхася Бацяна** з Валожына, **Аксаны Ярашонак** з Маладзечна і **Рагнеда Малахоўскага** з Мядзела.

У кнігі ўвайшлі вершы паэтаў, а таксама паэтычныя пераклады твораў маладых расійскіх творцаў, зробленыя беларусамі.

Для Крысціны Гарвер, Міхася Бацяна і Ганны Косцень кнігі, выдадзеныя ў Расіі, сталі першымі ў іх творчасці. А Аксана Ярашонак і Рагнед Малахоўскі ўжо маюць некалькі асабістых зборнікаў.

Кніжкі выдалі ў рамках міжнароднага літаратурнага перакладчыцкага праекта "Берагі дружбы". Праект дзейнічае ад 2012 года. Сёлета да яго ўпершыню далучыліся маладыя паэты Міншчыны.

**Аддзел інфармацыі.**

# У Маладзечне зладзілі выставу графікі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Ад 10 лістапада ў Маладзечне пачала працаваць выстава мастака, аўтара мастацкіх праектаў **Усевалада Швайбы**.

На выставе паказаная графіка мастака.

Убачыць яго працы можна ў дзіцячай мастацкай школе Маладзечна па адрасе: вуліца Драздовіча, 5.

Выстава будзе працаваць да 10 снежня.

**Аддзел інфармацыі.**

# Творы Багдановіча і Крапівы чыталі на радыё "Культура" вучні "Логаса"

**ВІЛЕЙКА**

Вучні гімназіі "Логас" паўдзельнічалі ў рэспубліканскім радыёконкурсе юных чытальнікаў "Паэтычны ветразь". Конкурс арганізавалі супрацоўнікі рэспубліканскага радыё "Культура". Ён прымеркаваны да юбілеяў **Максіма Багдановіча** і **Кандрата Крапівы**.

Вершы класікаў у студыі на памяць чыталі пяцікласніцы **Дыяна Гіль** і **Дарына Бярозкіна**, сямікласніцы **Таццяна Дзевяцень**, **Яўгенія Рамановіч**, **Сафія Барташэвіч** і **Яна Пакусаева**, вучань 9 класа **Артур Броўка** і **Марыя Борыс** з 10 класа.

Пасля запісу вершаў рэдактар канала "Культура" **Наталля Сіротка** правяла для юных чытальнікаў цікавую экскурсію. Дзеці пабывалі ў студыях, дзе вядзецца запіс праграм, у тэхнічным аддзеле радыё.

На працягу лістапада ў праграме "Мэры Попінс" будуць гучаць запісаныя выступленні ўдзельнікаў.

**Аддзел інфармацыі.**

# Вершы, музыка і кветкі: вечарыну Святланы Капуцкай зладзілі ў Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА**

Першая творчая вечарына Святланы Капуцкай адбылася ў малой зале Палаца культуры. "Я маці, я жанчына, я павінна" – гэты вершаваны радок стаў назвай першай літаратурнай вечарыны творчай маладзечанкі.

Паэтка расказала, як пачала пісаць вершы ў сталым узросце. Адзначыла, што на паэзію яе натхніла сустрэча з роднымі мясцінамі.

У аўтарскім выкананні прагучалі вершы, прысвечаныя блізкім і родным людзям, радзіме, каханню.

Шмат добрых слоў і музычных падарункаў было ад творчых гасцей вечарыны. Выступалі хор ветэранаў Палаца культуры, спевакі Маладзечна, паэт **Кастусь Цыбульскі**, сябры і родныя паэткі.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Святлана Капуцкая чытае ўласныя вершы.

**Аддзел інфармацыі.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# У Забродздзі правялі рэканструкцыю бою 100-гадовай даўніны

**ВІЛЕЙКА**

**Салдаты ў мундзірах часоў Першай сусветнай адбіваюць нямецкую атаку. Жанчыны ў форме сясцёр міласэрнасці ратуюць параненых. Гэта не кадры старой дакументальнай хронікі. Усё гэта можна было ўбачыць 12 лістапада ў Забродздзі.**



Фота забяспечана музеем Забродздзя.

**Падзеі амаль 100-гадовай даўніны рэканструявалі ў вёсцы Забродздзе на Вілейшчыне.**

Тут, на Вілейшчыне, у музеі Першай сусветнай вайны **Барыса Цітовіча**, адзначылі Дзень прымірэння і памяці.

Сёлета 11 лістапада споўнілася 98 год з дня заканчэння Першай сусветнай вайны. У гэты дзень у Францыі падпісалі Камп'енскае перамір'е. Нямецкія войскі прызналі сябе пераможанымі і пачалі выходзіць з усіх акупаваных тэрыторый, у тым ліку і з беларускіх земляў.

Ва ўсіх краінах-удзельніцах вайны, а іх было 38, 11 лістапада праводзяцца мерапрыемствы, якія маюць агульную назву "Дзень прымірэння".

У Забродздзі з гэтай нагоды сабраліся энтузіясты, краязнаўцы і проста неабыякавыя да сваёй гісторыі людзі, каб правесці ваенна-гістарычную рэканструкцыю.

У верасні 1915 года салдаты рускай арміі правялі аперацыю па вызваленні Вілейкі ад нямецкіх войскаў. Гэтыя падзеі рэканструявалі арганізатары.

### Адбівалі нямецкую атаку, як 100 гадоў таму

Па дадзеных гісторыкаў, страты ў баях за Вілейку ў часы Першай сусветнай перавышаюць страты пры вызваленні горада ў 1944 годзе.

У баях удзельнічала руская імператарская армія, таму некаторыя лічаць, што ў яе шэрагах былі толькі рускія. Аднак гэта не так. Руская армія была шматнацыянальнай і шматканфесійнай.

За Вілейку ў 1915 годзе змагаліся і беларусы. 13% камандармаў былі нашымі землякамі. Сёння на Вілейшчыне ўсталявалі 24 помнікі, прысвечаныя гэтым падзеям.

У гонар заканчэння вайны ў Забродздзі рэканструявалі бой, які адбываўся тут амаль стагоддзе таму. Дзякуючы ўдзельнікам ваенна-гістарычных клубаў з Мінска і Брэста, супрацоўнікам Цэнтра верхавой язды са Старынак, аграсядзібы "Забродздзе" і старшыні праўлення фонду памяці Першай сусветнай вайны "Крокі" **Вячаславу Бандарэнку** наведнікі змаглі адчуць каларыт баявых падзей.

Правялі таксама паніхіду на Брацкіх вайсковых могілках, што месцяцца ў лесе недалёка ад вёскі Забродздзе, крыжовы ход да Барыса-Глебскай царквы і малебен "перад боем". Пасля мерапрыемства святар прызнаўся, што першы раз у жыцці ладзіў малебен "пад канвоем": з двух бакоў ад яго стаялі коннікі са зброяй.

– Для мерапрыемства мы падрыхтавалі падборку песень Першай сусветнай, каб стварыць тагачасную атмасферу. Я бачыла па вачах людзей, асабліва прадстаўнікоў старэйшага пакалення, наколькі эмацыйна яны ўспрымалі музыку, – падзялілася рэжысёр **Валянціна Цітовіч**.

Па словах жанчыны, многія думалі, што гэтыя песні рэвалюцыйныя. І толькі ў час мерапрыемства даведаліся, што гэта перапрацоўка песні Першай сусветнай вайны.

У перапынках паміж мерапрыемствамі можна было паразмаўляць з рэканструктарамі, зладзіць фотасесію, пакатацца на конях і пагрэцца гарачым чаем з салдацкай кухні.

– Як рэжысёр я зразумела, што мерапрыемства нам удалося, – такую аб'ектыўную ацэнку Дню прымірэння і памяці ў Забродздзі дала Валянціна Пятроўна.

### Касэль-Забродздзе: як даглядаюць могілкі Першай сусветнай

Цікава, а які погляд на дзейнасць Валянціны і Барыса Цітовічаў маюць у Германіі?

Памяць павінна быць з абодвух бакоў, перакананая Валянціна Цітовіч.

Яна распавяла, што з немцамі музей у Забродздзі супрацоўнічае даўно. У прыватнасці, шматгадовыя сувязі ў музея з грамадскім аб'яднаннем "Народны саюз Германіі па доглядзе за вайсковымі пахаваннямі".

Арганізацыя мае доўгую гісторыю. Яна была створаная ў хуткім часе пасля заканчэння Першай сусветнай вайны ў нямецкім горадзе Касэль для таго, каб даглядаць пахаванні нямецкіх салдат за межамі Германіі. У яе ўвайшлі былыя салдаты, чые сябры загінулі на франтах вайны.

У свой час па ініцыятыве Барыса Цітовіча валанцёры гэтай арганізацыі прыязджалі на Вілейшчыну. Тут, на тэрыторыі Іжанскага сельсавета, ёсць брацкая магіла, дзе побач пахаваны і рускія, і немцы. З дапамогай вясковых улада ў валанцёры прывялі ў парадак могілкі.

У час добраўпарадкавання не рабілі розніцы паміж помнікамі рускім і нямецкім вайскоўцам. Смерць у баі раўняе ўсіх, і не нам судзіць салдата, які ляжыць у зямлі, упэўнена Валянціна Пятроўна.

Ладзіліся таксама сумесныя беларуска-нямецкія велапрабегі па мясцінах Першай сусветнай. У такіх мерапрыемствах удзельнічаюць ваенныя курсанты абедзвюх краін або афіцэры запасу.

І ўсё ж, па словах жанчыны, ёсць пэўныя праблемы.

**Нямецкі саюз па доглядзе за вайсковымі пахаваннямі шмат робіць для захавання памяці пра сваіх салдат, прыводзіць у парадак нямецкія пахаванні. Усё гэта робіцца на дзяржаўным узроўні.**

Людзі, якія даглядаюць нямецкія могілкі ў Беларусі, нават атрымліваюць грошы за гэта.

Што да пахаванняў салдат рускай арміі, тут не заўсёды ёсць такая падтрымка. І ад гэтага крыўдна.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

Пасольства ФРГ у Беларусі. УНП 101166185.

**Жыхары Мінскай вобласці, Астраўца і Астравецкага раёна**
могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.
☎166

Рэгіянальная газета. Rh.by ТРАНСПАРТ Тэлетыдзень
Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!
Вечерний Бобруйск

# ТРАНСПАРТ

## ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі-80 (В-4), 1993 г.в, г.б., шэры перламутр, літыя дыскі, выдатны стан. Т. (8-044) 7204408.
- Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- ЗІЛ-130, дызель, Д245, самазвал-сельгаснік, доўгі кузаў, добры стан. Т. (8-029) 8777563.
- Івека 49-10, 1997 г.в., рух. 2,8, суцэльнаметалічны, падагрэў рухавіка, вебаста, 4300 руб, торг. Т. (8-029) 6470154, (8-029) 8630321.
- Опель-Вектра, 2001 г.в., 2,0 ТДІ, серабрысты седан. Т. (8-029) 5023219.*
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Рэно-Сцэнік 2, 2004 г.в, 1,6Б, выдатны стан, 9100 руб. Т.(8-044) 5900506.
- Сітраэн-Ксара 2000 г, 2,0 бензін, універсал, Вілейка. Т. (8-029) 8576731, (8-044) 4980212.
- Опель-Вектра, 1991 г.в, 1,6Б, па запчастках, ёсць усё. Т. МТС (8-029) 8575748.
- Рэно-Кліа, 1994 г.в, 1,4Б, па запчастках. Т. МТС (8-029) 8575748.
- Форд-Мандэа, універсал, 2002 г.в, 2,0 ДТСІ. Т. (8-029) 2793339 Аляксандр.
- Фіят-Скуда, 1997 г.в, 1,9 ТД, выдатны стан. Т. Лайф (8-025) 9764782.
- Форд-Мандэа, 1997 г.в, хэтчбэк, сіні металік, АБС, гідраўзмацняльнік руля, кандыцыянер, электрапакет, 2 АРБ, 2600 руб. Т. (8-025) 9477259.
- Аўташыны любых памераў ад 13 да 22,5 і сельскагаспадарчыя колы. Шынамантаж на месцы. Т. (8-029) 6032178, (8-029) 7539495.*
- Гума зіма 205/60 R16 б/к (Германія). Акумулятар 75 A.h. (новы) на гарантыі. Т. Вэлком 6207706.
- Запчасткі б/к да Аўдзі-80 В3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- Запчасткі б/к да ФВ-Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*
- Запчасткі б/к да ВАЗ-2101. Т. (8-044) 4703638.
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.
- Рухавік 220В, 3000 абаротаў у хвіліну, 3 кВт, новы. Т. МТС (8-029) 2547336.

## КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*
- Аўто у любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

## ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАЕЦЦА

- 2-пакаёвая кватэра ў а/г Беразінскае Маладзечанскага раёна. Тэрмінова! 30000 руб. Т. (8-044) 5757953, (8-0176) 725369.
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён Незалежнасці. Т. (8-029) 5081223.*
- 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Маладзечна, 1 паверх, 50 кв.м, вышыня столі 3 м, можна пад магазін, офіс і г.д. Т. (8-029) 6870310.
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечна па вул. Крынічнай, 25. Т. (8-029) 3840109.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Гараж ГСП №5 у Смаргоні, пліты перакрыцця, падвал 6х4, вышыня 2,9. Т. (8-044) 5303655.
- Гараж Зеніт 20 02 бокс №1 у Вілейцы, яма, падлога бетон. Т. (8-029) 7005121.
- Гараж у ГК-12 у Маладзечне. Тэрмінова! Т. (8-029) 8583149.
- Гараж у ГК-12 у Маладзечне. Т. (8-029) 3107024.*
- Гаражны бокс на тэрыторыі платнай стаянкі па вул. Касманаўтаў у Маладзечне. Т. (8-029) 2696555.
- Дача ў Забалоцці. Т. (8-029) 2608541.*
- Дом новы жылы ў Маладзечне, раён Ф. Скарыны. Т. (8-029) 6606629.
- Дом у Маладзечне. Т. (8-029) 2608541.*
- Участак 0,1028 га. Мінская вобл., Маладзечанскі раён, Лебедзеўскі с/с, СТ "Асанава". Пачатковае будаўніцтва (фундамент, каробка). Святло, газ па вуліцы. Без даўгоў. Т. (8-0176) 541864, (8-033) 6679478, (8-029) 6269478.*

## ЗДАМ

- 1 пакой у 2-пакаёвай кватэры для мужчыны, раён Гелянова ў Маладзечне. Т. (8-033) 6379119.
- 3-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, раён ГЦ "Космас", нядорага. Т. (8-029) 7550983.
- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***
- У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.
- У арэнду офісныя памяшканні (17,1+30 кв.м; 26,5 кв.м; 16,2 кв.м; 8,1 кв.м) на асобным паверсе (з санвузлом, халадзільнікам), можна ўвесь паверх для адной арганізацыі. Асобныя памяшканні ў комплексе: 15,7 кв.м+55,9 кв. +7,6 кв.м (2-і паверх, з санвузлом, асобны ўваход, можна пад офісы/вытворчасць/склад.Размяшчэнне каля ГЦ "Спадарожнік" у Маладзечне.ІП Суднікові В.В. УНП 691888455. Т. (8-044) 7641131, (8-029) 6650410, (8-029) 1180002 (пн.-пт. 8:00-17:00).

## МЯНЯЮ

- 1,5-пакаёвую кватэру на 2-пакаёвую па вул. Ясінскага ў Маладзечне, 3 паверх 5-павярховага дома, жылая плошча 18,9 кв. м, прыхожая 10,33 кв.м, кухня 6,6 кв.м, лоджыя 6 м. Усюды шклопакеты. Кватэра ў добрым стане. Т. (8-0176) 738233, (8-029) 1605944.*

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

## ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выходных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

## ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Абітурыент! Біялогія для школьнікаў і навучэнцаў. Т. (8-025) 5085489.
- Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*
- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Агульнабудаўнічыя работы, рамонт даху. ІП Вольскі П.П. УНП 691888641. Т. (8-029) 6764425.*
- Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выканаем ўсе віды ўнутраных і вонкавых аддзелачных работ. ІП Балуш І.І. УНП 691181095. Т. (8-029)5156643, (8-029) 5671859.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архіваназнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*

**АККУМУЛЯТОРЫ**
- для автомобилей
- мотоциклов
- источников питания
- сигнализаций
- лодок

***ПРОДАЖА, ЗАРЯДКА** аккумуляторов,*
***ДИАГНОСТИКА** с выдачей распечатки и справки*

- моторные и индустриальные масла
- смазки
- реагент AdBlue разливной
- шины
- сварочная проволока
- шпатлёвка
- антифризы
- запчасти к иномаркам

***ПОКУПАЕМ ОТРАБОТАННЫЕ АККУМУЛЯТОРЫ***
Тел. **(0176) 58-12-48, (029) 63-63-166**
ООО «Батарис» УНП 691883243

**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Осмотр, ремонт ходовой, развал**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя**
- **Шиномонтаж, аргон**

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

**СТО «АртАлексСервис»**
**для легковых авто и микроавтобусов а также ВАЗ, ГАЗ, Газель, УАЗ**

**ДИАГНОСТИКА И РЕМОНТ:**
- двигателей
- подвески
- рулевого управления
- тормозных систем
- сцепления
- механических КПП
- задних балок французских авто

**РЕМОНТ СУППОРТОВ**
**ШИНОМОНТАЖ**
**РАЗВАЛ-СХОЖДЕНИЕ**
**КОМПЬЮТЕРНАЯ ДИАГНОСТИКА**
- установка и продажа стекол
- замена ремней ГРМ
- замена и ремонт глушителей
- экспресс-замена масла и жидкостей
- снятие и проверка форсунок HDI, CDI

**Молодечно, Нагорная, 4Б** Тел. **(8-0176) 74-42-95, (8-029) 766-56-99, (8-044) 766-56-99.**
**Наличный и безналичный расчёт**
**АВТОЗАПЧАСТИ** в наличии и под заказ
ЧП «АртАлексСервис». УНП 690063270

| Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну: | |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Затрымалі старшыню Бабруйскага гарвыканкама, які раней працаваў у Маладзечне

**Старшыня Бабруйскага гарадскога выканаўчага камітэта Андрэй Каваленка затрыманы за хабарніцтва.**


Фота bobruisk.by.

Андрэй Каваленка.

Пра гэта паведамляе прэс-служба МУС Беларусі.

Як гаворыцца ў паведамленні ведамства, з'яўляючыся службовай асобай, якая займае адказную пасаду, на працягу доўгага часу ён атрымліваў ад прадстаўнікоў суб'ектаў гаспадарання і грамадзян Беларусі буйныя сумы грошай у беларускіх рублях і замежнай валюце. Хабар быў за спрыяльнае вырашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю, паведамляе "Наша ніва".

Затрыманне праводзілі супрацоўнікі 11-га ўпраўлення (па Магілёўскай вобласці) ГУБАЗіК МУС сумесна з калегамі з абласнога ўпраўлення КДБ. Следчы камітэт пачаў крымінальную справу па частцы 3 артыкула 430 КК Рэспублікі Беларусь (атрыманне хабару ў асабліва буйным памеры).

Падазраваны змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання.

Андрэй Каваленка нарадзіўся ў 1970 годзе ў пасёлку Разлог Калінінградскай вобласці. Працаваў кантралёрам на радыёзаводзе "Спадарожнік" у Маладзечне. Пасля службы ў Савецкай Арміі працаваў у "Жылкамгасе" Быхава. У 2001 годзе скончыў Гомельскі дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт імя Сухога па спецыяльнасці эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве.

Працаваў дырэктарам унітарнага вытворчага камунальнага прадпрыемства "Быхаўрайводаканал", намеснікам начальніка ўпраўлення жыллёва-камунальнай гаспадаркі Магілёўскага аблвыканкама, першым намеснікам старшыні Бабруйскага гарвыканкама, кіраўніком адміністрацыі Кастрычніцкага раёна Магілёва.

У 2006 годзе скончыў Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па спецыяльнасці фінансавы і банкаўскі менеджмент.

**Паводле "Нашай нівы".**

# Навучэнец вілейскага каледжа перамог у адкрытым Кубку Беларусі па ўшу-саньда

**ВІЛЕЙКА**

Навучэнец Вілейскага дзяржаўнага каледжа **Дзмітры Грунічаў** стаў чэмпіёнам адкрытага Кубка Рэспублікі Беларусь па ўшу-саньда ва ўзроставай катэгорыі "юніёры" – спартсмены 16-17-гадовага ўзросту.

Кубак па ўшу праводзіўся 21-23 кастрычніка ў Мінску, у спартыўным комплексе "Уручча".

Дзмітры вучыцца на другім курсе каледжа на спецыяльнасці "кіроўцаслесар-электразваршчык".

З 10 гадоў хлопец займаецца адзінаборствам пад кіраўніцтвам трэнера **Сяргея Панцюхова**. Дзмітры ўжо паўдзельнічаў у 30 баях і мае шмат перамог у абласных, рэспубліканскіх і міжнародных турнірах.

Навучэнец марыць стаць профі ў сваёй спецыяльнасці і чэмпіёнам свету па ўшу-саньда і ўпэўнена ідзе да сваёй мэты.


Фота забяспечана Святланай МАЦУКЕВІЧ.

Дзмітры Грунічаў з узнагародамі.

Цяпер Дзмітры рыхтуецца да ўдзелу ў першынстве Беларусі па ўшу.

Чым бы чалавек ні займаўся ў жыцці, усё трэба рабіць на высокім прафесійным узроўні, інакш не варта і пачынаць, лічыць хлопец.

**Святлана МАЦУКЕВІЧ, педагог-арганізатар Вілейскага дзяржаўнага каледжа.**

● НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

# Канец банды пад Радашкавічамі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Пасля працы ў начную змену ў Мінску хацелася спаць. Лёгкая дрымота агарнула яшчэ ў тралейбусе па дарозе да вакзала.**


Фота Міхаіла МІХАЛЕВІЧА.

Якіх толькі гісторый не пачуеш у электрычцы, калі табе даводзіцца кожны дзень ездзіць на работу ў Мінск.

Можа, і заснуў бы нават, але надта шмат людзей было ў транспарце.

А ўжо ў электрычцы, не запоўненай дачнікамі, сон узяў сваё, і я ці не паўдарогі праспаў – ад Мінска да Заслаўя. Праўда, сон трэба было трымаць пад кантролем, каб не праехаць свой прыпынак.

Калі электрацягнік адправіўся ад Заслаўя, стала чутна, што нехта грузны, ва ўзросце, ідзе па праходзе. Пра гэта сведчыла нетаропкая, з задышкай, цяжкая хадзьба. Чалавек ішоў паволі, угледаючыся ў твары рэдкіх пасажыраў. Быццам нешта ці некага шукаў.

Непаўнацэнны сон рабіў сваю справу – выклікаў раздражненне і імкненне ізалявацца ад усялякіх непажаданых уздзеянняў. І хоць свабодных месцаў было дастаткова, але падумалася: "Не хапала, каб усеўся насупраць і пачаў чапляцца з рознымі пытаннямі ці дзяліцца сваімі сямейнымі ці дамашнімі падрабязнасцямі і меркаваннямі на ўсе падзеі.

Быццам прачытаўшы мае думкі, чалавек каля майго сядзення прыпыніўся, угледзеўся ў твар і сеў побач. І адразу ж няспешна загаварыў. Я падрыхтаваўся да горшага. Але па меры яго размовы мой адмоўны фон знікаў. Наадварот, з'явілася цікавасць.

### Аповед майго спадарожніка

– Пад'язджаю да родных мясцін і не магу спакойна сядзець. Магчыма, гэта мая апошняя паездка – мне ўжо ж пад 80 гадоў, – распавядае мой суразмоўца. – Жыву ў Гомелі, дзеці і ўнукі – дарослыя. У іх сваё жыццё, а мяне ў апошні час цягне туды, дзе нарадзіўся. Перад паездкай да адпраўлення цягніка Гомель-Мінск заставаўся час. Захацелася наведаць зямлячку з Дубраў. У яе быў свой прыватны дом каля вакзала. Але замкі на дзвярах. Суседзі сказалі, што ўжо некалькі гадоў, як яна памерла.

У мяне свет звузіўся да родных ваколіц. Гэта жанчына аказалася маёй суседкай па вёсцы. Некалі яе пасля заканчэння вучобы накіравалі на працу ў Гомель. Аповед чалавека зацікавіў мяне яшчэ больш.

– У Мінску я зайшоў да пляменнікаў, – працягвае свой расказ мой спадарожнік, – пабыў там пару гадзін. Угаворвалі застацца, але адмовіўся. Цяпер вось еду на Маладзечна. Там таксама засталіся родныя. Сам я родам з вёскі Гіневічы Валожынскага раёна. Мы з братам пасля вайны былі першымі музыкантамі ў акрузе. (І мужчына назваў мянушкі, ды толькі я іх не запомніў – аўт.).

Быў я і ў тваіх Навасёлках, і Дубравах, ігралі на вяселлях. Бацькі бачылі нашу цягу да музыкі, сабралі грошай і купілі новы гармонік. А па тым часе за яго трэба было аддаць столькі грошай, колькі за добрую дойную карову. "Ну, цяпер мы пакажам клас", – думаў я. Ды толькі шчасце не было доўгім.

Неяк надвячоркам забрахаў, завойкаў і заціх сабака. Рэзка рыпнулі дзверы. На парозе стаялі двое са зброяй. Гэта былі бандыты, што ў страху трымалі акругу. Ім трэба быў мой новы гармонік. А перад тым, як забраць, загадалі сыграць. Іграю. А ў кішэні абрэз. Іграю і ацэньваю становішча. Гэты, што бліжэй да мяне, высокі, чубаты, здаецца, з мясцовых, зусім расслабіўся, "паплыў" ад музыкі. Я яго пакладу адным стрэлам. Але ёсць і другі, незнаёмы, што застаўся каля парога. Невысокі, плячысты, з настаўленым нямецкім шмайсерам. У адказ не прамахнецца. А тут жа бацькі, сястра.

Гармонік прыйшлося аддаць. А раніцай, па дарозе на працу ў лесапільню ў Ракаў, патэлефанаваў аб нападзе ў аддзел міліцыі ў Радашкавічы. Дзяжурны, што прыняў званок, пачаў задаваць пытанні, у якіх адчуў пагрозу і для сябе. І я замоўк, замкнуўся. Той новы гармонік быў страчаны для мяне назаўсёды. Столькі гадоў прайшло, а помніцца.

Чалавек уздыхнуў. Застарэлая крыўда і роспач былі ў яго словах. І не толькі. Было шкадаванне па тым часе. Калі ён быў малады, дужы. Калі на ляту лавіў, запамінаў любыя мелодыі, каб пасля без усялякіх нот сыграць на танцах.

– А з тымі бандытамі доўга не маглі разабрацца, – зноў пачынае гаворку мой субяседнік. – Узяліся за іх усур'ёз тады, калі пачаліся напады на фінагентаў, магазіны. І нават на малаказавод у Ракаве, калі яны захапілі амаль машыну сыроў.

Але я ўжо, каб быць бліжэй да музыкі, уладкаваўся на работу ў Маладзечна на фабрыку музычных інструментаў. Працаваў і актыўна ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. Колькі мы прызоў і грамат завалі. Не злічыць. А пасля пераехаў у Гомель, адкуль родам была жонка. А на старасці цягне туды, дзе нарадзіўся, у Гіневічы. (І ён махнуў рукой у бок ад станцыі Радашкавічы, якую як раз праязджалі). Але там з родных нікога ўжо і не засталося.

### Пад уражаннем ад пачутага

Хутка і я развітаўся са сваім субяседнікам, які паехаў далей у Маладзечна. Усю дарогу ад электрычкі дадому, у вёску Навасёлкі, быў пад уражаннем ад пачутага. Успомнілася, што ўжо чуў пра гэту банду. Вядомы паэт і наш зямляк Віктар Шніп у сваім зборніку "Проза і паэзія агню" называе гэту банду бандай Дамінкаса.

У нашай хаце часта бывалі жанчыны, яны шылі адзенне ў маёй маці-швачкі. І я, малым, помню іх размову ўжо пра суд над тымі, хто кантактаваў з бандытамі, хто даваў ім прытулак. А банда да таго часу ўжо была ліквідаваная. Каб іх злавіць, пачалі працаваць з мясцовым насельніцтвам. На дзяржаўных аб'ектах узмацнілася ахова. Кожную ноч у Дубраўскай СШ са старэйшых класаў пад кіраўніцтвам капітана Газіева арганізоўвалася ўзброеная дзяжурства.

А пра канец банды расказвала мая суседка з катэджа. Яна ў тыя часы жыла на хутары Глыбокі Лог каля лесу, у трохкутніку вёсак Навасёлкі, Татарскія, Еленка. З дапамогай мясцовых жыхароў банду высачылі, акружылі і пасля кароткай страляніны ўсё было скончана.

Мая суседка, тады яшчэ школьніца, папрасіла прапушчаць яе цераз "кардон" на той суседні хутар, дзе ўсё і адбылося, да сваёй аднакласніцы, быццам за падручнікам. На сцежцы да хутара ляжала каля дзясятка трупаў бандытаў. Амаль у паловы з іх былі аднолькавыя раны запечанай крыві на патыліцы. Апазнанне бандытаў праходзіла праз дзень у Алёхнавічах.

Справа была здадзена ў архіў, дзе з грыфам "Сакрэтна" ці без яго пыліцца вось ужо больш за 50 гадоў. Пэўна, і не трэба здзімаць пыл з папер і варушыць гэты пасляваенны прывыд, што наводзіў страх на людзей, якія толькі-толькі ачуняліся ад вайны.

**Іосіф ПАЎКАЛАС, вёска Навасёлкі-1 Маладзечанскага раёна.**

# Маршалкоўскія школы былога Ашмянскага павета

*Працяг.*
*Пачатак у №46.*

АШМЯНЫ

**Урачыстае асвячэнне вуглавога каменя пад будучую “публічную паўшэхную школу імя Юзафа Пілсудскага” ў Гінеўцах адбылося 14 ліпеня 1936 года.**

У прысутнасці выканальніка абавязкаў павятовага старасты Сільвестровіча, школьнага інспектара Краеўскага, інспектара гмінага самакіравання Станкевіча і павятовага інжынера Янсана акт асвячэння выканаў ашмянскі дэкан з Жупранаў ксёндз Пякарскі. На ўрачыстасці прысутнічалі іншыя прадстаўнікі ўлады і шматлікая грамадскасць. Месца пабудовы школы было ўпрыгожанае харугвамі і зеленню. У гэты дзень у будаўніцтве фундамента школы чынны ўдзел бралі настаўнікі, моладзь, жыхары навакольных вёсак, прадстаўнікі пажарнай стражы і дарадцы гмінаў. Быў таксама заўважаны атрад вучняў з аграрнай школы ў Антанове на чале з прафесарам Станкевічам.

Школу заклалі на ўзвышшэнні, непадалёку ад дарогі Баруны-Ашмяны і выдзелілі пад яе патрэбы два гектары зямлі. Распачынаецца напружаная штодзённая праца па ўзвядзенні школьных будынкаў. Прыспешвае яе неабходнасць сканчыць будаўніцтва да новага 1937-1938 навучальнага года. У выніку намаганняў Гінеўская школа ў вызначаны тэрмін была ўведзеная ў эксплуатацыю.

Як паведамляў “Кур’ер Віленскі” ў публікацыі за 11 верасня 1937 года: “Вясковая дзятва ў Ашмянскім павеце ўжо наведала дзевяць новых паўшэхных школ імя маршалка Пілсудскага, якія налічваюць 23 школьныя пабудовы і якія прынятыя да выкарыстання 3 (трэцяга) верасня бягучага года.

Будынкі новых школ былі ўзведзеныя з задавальненнем сучасных магчымасцяў навучання. Размешчаныя яны ў бачных мясцінах і ў цэлым пакідаюць дасканалае ўражанне... Планавае і тэрміновае выкананне новых школ гміннымі ўладамі ёсць вынік энергіі і працавітасці органаў самакіравання і некаторых асоб. З іх найвышэйшую заслугу мае войт Куцавіцкай гміны Каэтан Ражноўскі разам з кіраўніком школы Генрыкам Чайкам, які прысвячаў будоўлі ўвесь свой час”.



Фота забеспячэнне Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Гудагайская школа (2015).



Фота забеспячэнне Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Вішнёўка, Смаргонскі раён.

Фота забеспячэнне Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Дакурнішская школа.

У далейшым, да закрыцця ў 2009 годзе Гінеўскай базавай школы, навучальная ўстанова ўвесь час заставалася культурна-асветніцкім асяродкам у гэтым кутку Ашмянскага краю. Не адно пакаленне яе выпускнікоў з дабрынёй узгадвае ва ўспамінах сцены сваёй роднай школы.

## Дакурнішская школа

Пра гісторыю школы Пілсудскага на станцыі Ашмяны, якая пасля закрыцця стала называцца Дакурнішскай, можна ўзгадаць некалькі каштоўных фактаў. У час вайны заняткі ў школе не праводзіліся, а сам будынак выкарыстоўваўся нямецкім гарнізонам. Адбудаваўшы пасля вайны школу, у ёй працягваецца вучэбны працэс. У 1958 годзе да школы дабудоўваецца яшчэ адзін корпус, а ў 1967 годзе Дакурнішская базавая школа становіцца сярэдняй. З цягам часу старыя будынкі перастаюць адпавядаць сучасным умовам, і ў 1989 годзе ўзводзіцца новы двухпавярховы будынак школы. У пачатку стагоддзя старыя пабудовы былі знесеныя, а на месцы старой школы ўсталяваны памятны знак з кранаючым тэкстам:

*“Таварыш мой, спыні свой крок*
*Ля школы той, што гадавала,*
*Што дала першы нам урок,*
*Нас у жыцццё накіравала.*
*2003 г.”*

## Граўжышкаўская школа

На сайце ДУА “Граўжышкаўскі ВПК” можна знайсці наступную інфармацыю па гісторыі Граўжышкаўскай школы пасля 1937 года. “У 1939 – 1941 гг. тут працуе няпоўная сярэдняя школа, у гады вайны яна не працавала. 31.8.1944 г. аднаўлена сямігодка, але з-за недастатковай колькасці вучняў для камплектавання 5 класаў засталася пачатковай. 3 лістапада 1948 г. зноў стала сямігодкай, з 1950-х гадоў – сярэдняя адукацыйная школа”.

Будынак школы Пілсудскага быў спецыяльна пабудаваны па індывідуальным праекце, распрацаваным для навучальных устаноў. Ён неаднаразова дапаўняўся, мяняўся да сучаснага выгляду, цяпер тут знаходзіцца Граўжышкаўская СПІ. Але дух былой польскай школы адчуваўся ў ёй яшчэ доўгі час.

Як адзначыла былая выпускніца школы Т.Кляшчонак: “У сярэдзіне была вялікая кватэра для дырэктара. Мы ў ёй гадоў 10 жылі, і яна мне сніцца. Навокал за сценамі былі класы, адны дзверы вялі ў настаўніцкую. Высокая столь, своеасаблівыя ручкі на вокнах, падобныя на клямкі. Вельмі высокае паддашша, у кожным класе печы, пакрытыя белай паліванай кафляй. Вокны сабраныя ў пары, вельмі вялікія, як на той час, але не памятаю, каб калі хто пабіў шкло ці яно само патрэскалася”.

З усіх дзевяці школ Пілсудскага былога Ашмянскага павета толькі перароблены будынак Граўжышкаўскай школы надалей служыць асвеце.

**Уладзімір ПРЫХАЧ.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

## 18 ЛІСТАПАДА

**Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці аграпрамысловага комплексу.**

**85 гадоў** з дня нараджэння Анатоля Вярцінскага (1931), беларускага паэта і перакладчыка, драматурга, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**85 гадоў** з дня нараджэння (1931) Генадзя Мурамцава, беларускага скульптара. Яго партрэтныя вобразы заўсёды адрозніваюцца своеасаблівай лаканічнай аўтарскай манерай. Сярод створанай галерэі персанажаў сустракаюцца вядомыя пісьменнікі, паэты, мастакі Беларусі – Максім Багдановіч, Аркадзь Куляшоў, Васіль Быкаў, Заір Азгур, іншыя.

## 19 ЛІСТАПАДА

**25 гадоў** назад (1991) створанае Беларускае прыватнае агенцтва навін (БелаПАН).

**1996 год.** Са станцыі Яцкі (Дзятлаўскі раён) адпраўлены эшалон з апошняй ракетай “Тапаля”. Беларусь стала без’ядзернай дзяржавай.

## 20 ЛІСТАПАДА

**115 гадоў** з дня нараджэння Міхася Зарэцкага (сапр. Міхаіл Яўхімавіч Касянкоў) (1901 – 1937), беларускага пісьменніка.

## 21 ЛІСТАПАДА

**120 гадоў** з дня нараджэння Дзмітрыя Прышчэпава (1896 – 1940), дзяржаўнага і грамадскага дзеяча Беларусі, народнага камісара земляробства БССР (1924 – 1929). Праводзіў у 1920-х гадах у Беларусі аграрную палітыку пад лозунгам “Беларусь – чырвоная Данія”, якая складалася ў свабодзе выбару сялянамі формаў землекарыстання, размяшчэнні сялянскіх гаспадарак на хутарах.

## 22 ЛІСТАПАДА

**70 гадоў** з дня нараджэння (1946) Яраслава Еўдакімава, спевака, народнага артыста Беларусі, народнага артыста Расіі.

## 23 ЛІСТАПАДА

**150 гадоў** назад (1866) у Кракаве памёр Адам Кіркор, беларускі і польскі гісторык, этнограф, археолаг, публіцыст, грамадскі дзеяч.

**145 гадоў** з дня нараджэння Уладзіміра Тэраўскага (Цяраўскага) (1871 – 1938), беларускага харавога дырыжора, кампазітара і фалькларыста, стваральніка аднаго з першых харавых калектываў у Мінску.

**110 гадоў** з дня выхаду (1906) першага нумара беларускай легальнай грамадска-палітычнай і літаратурнай газеты “Наша ніва” (выдавалася да 7 жніўня 1915 г. у Вільні).

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

## Папярэднія вынікі расследавання гібелі школьніцы на полі пад Маладзечнам

**Незалежны прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) публічна запатрабаваў ад міністра адукацыі спыніць заганную практыку выкарыстання прымусовай працы школьнікаў на сельгасработах і паведаміць аб службовых асобах ведамства, якія маюць дачыненне да маладзечанскай трагедыі, дзе ў полі пад коламі грузавіка загінула 13-гадовая школьніца.**

Ініцыятыву прафсаюза падтрымала каля 600 неабыякавых да выкарыстання прымусовай дзіцячай працы чалавек, якія падпісаліся пад зваротам прафсаюза ў інтэрнэце на сайце zvarot.by.

Адказ Міністэрства адукацыі каментуе прававы інспектар прафсаюза РЭП **Леанід Судаленка**, які аказвае юрыдычную дапамогу бацькам загінулай дзяўчынкі.

"У Мінадукацыі ёсць вялікі козыр – яшчэ ў красавіку яны накіравалі ліст па ўсіх аблвыканкамах (11 красавіка 2016 года №І-05-17/128) аб няўхільным выкананні артыкула 89 Кодэкса аб адукацыі, які, як вядома, прама забараняе прыцягваць вучняў школ да сельгасработ. Пра гэта міністэрства праінфармавала наш прафсаюз, дадаткова паказаўшы, што сельгасработы забаронена прыраўноўваць і да так званай "грамадска карыснай працы", пад прыкрыццём якой настаўнікі "возяць дзяцей на бульбу". Як бачым, у Мінадукацыі яшчэ задоўга да гібелі дзіцяці ў полі была дакладная пазіцыя, якая выключае прыцягненне вучняў школ да работ у полі", – адзначыў прафсаюзны юрыст.

Леанід Судаленка адзначае, што па другім пытанні звароту Мінадукацыі "схавалася" за Закон "Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі", якім дапускаюцца выпадкі адмовы ў даванні інфармацыі. "Іншымі словамі, нам як бы намякнулі на крымінальную справу, маўляў, асудзяць настаўніцу, якая была з вучнямі ў полі, значыць, яна і вінаватая", – расцаніў ён адпіску чыноўнікаў.

Прафсаюзны інспектар падзяліўся наяўнай у прафсаюза храналогіяй падзей, якія папярэднічалі трагедыі пад Маладзечнам.

26 верасня кіраўнік ААТ "Усход-агра" накіроўвае на адрас аддзела адукацыі Маладзечанскага райвыканкама ліст №12, у якім просіць аказаць дапамогу ва ўборцы бульбы 28 і 29 верасня. 28 верасня начальнік аддзела адукацыі Маладзечанскага райвыканкама лістом №1-3/408 у адрас кіраўнікоў устаноў адукацыі раёна просіць накіраваць у ААТ "Усход-агра" працаўнікоў і вучняў (толькі 10 клас) для ўборкі бульбы.

Ад СШ №11 Маладзечна, дзе вучылася загінулая дзяўчынка, патрабавалася накіраваць 20 чалавек. У гэты ж дзень, 28 верасня, кіраўніцтва СШ №11 выдала загад №268, згодна з якім на сельгасработы накіроўваюцца: 11 клас – 4 чал.; 10 клас – 5 чал. і 8 клас (уключаючы загінулую дзяўчынку) – 11 чалавек. Пры гэтым, як вынікае з пісьмовых тлумачэнняў кіраўнікоў раённай адукацыі, ААТ "Усход-агра" і СШ №11, дамовы на выкананне работ або працоўныя дамовы не заключаліся і намеру іх заключыць не было. Выплата заработнай платы таксама не прадугледжвалася.

"У нас ёсць інфармацыя, што аплата працы дзяцей адбывалася "натурай", дзеці прывозілі з поля дадому бульбу", – дадаў прававы інспектар.

Хто ў трагедыі, якая здарылася, абышоў закон, на гэтае пытанне павінна даць адказ следства. Незалежны прафсаюз РЭП будзе кантраляваць крымінальную справу, па якой вінаватыя могуць назваць ужо 29 лістапада (два месяцы папярэдняга расследавання).

Нагадаем, прафсаюз РЭП дапамог бацькам загінулай дзяўчынкі запатрабаваць ад раённага дэпартамента па ахове працы правядзенне спецыяльнага расследавання ў сувязі з няшчасным выпадкам са смяротным зыходам. Чыноўнікі Мінпрацы палічылі, раз працоўныя дамовы дазволена заключаць з 14 гадоў, такім чынам, з загінулай 13-гадовай школьніцай не магло быць працоўных адносін, а значыць, і расследаваць няма чаго. Прафсаюз дапамог бацьку звярнуцца ў суд, дзе ў цяперашні час вырашаецца пытанне аб узбуджэнні справы.

**Паводле прэс-рэліза прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці.**



Не пашкадуйце часу і для прыгожай сервіроўкі. Яна і апетыт палепшыць, і настрой падыме. Фота vseodetyah.com.

# 8 прадуктаў для зімовага харчавання

## Каб дэпрэсія не ўзяла вас у абарот

**У перыяд года, калі дні кароткія, шэрыя, шмат у каго пагаршаецца настрой. Проста немагчыма справіцца з хандрой, работа і захапленні ўжо не прыносяць задавальнення. Тады дапамажыце свайму арганізму і пачніце з рацыёну. Дадайце ў сваё меню прадукты, якія валодаюць антыстрэсавым эфектам і папаўняюць недахоп вітамінаў.**

### 1). Кашы з цэльнага збожжа

Менавіта такія кашы з'яўляюцца натуральнымі антыдэпрэсантамі. Яны выратуюць вас ад хандры.

Дрэнны настрой часта з'яўляецца прычынай расстройства работы стрававальнай сістэмы. Кашы багатыя клятчаткай, якая пры рэгулярным ужыванні нармалізуе дзейнасць страўнікава-кішачнага тракту і паскарае абменныя працэсы ў арганізме.

### 2). Тлустая рыба

Збалансаваны рацыён немагчымы без тлустай рыбы. Гэта каштоўная крыніца поліненасычаных тлустых кіслот амега-3, бялку і іншых карысных рэчываў, уключаючы шматлікія вітаміны і мінералы. Багаты склад тлустай рыбы дазваляе нам падтрымліваць сваё цела і розум у тонусе, а гэта значыць, што рэзкія перапады настрою і беспадстаўная хандра будуць абыходзіць вас бокам.

Асаблівую ўвагу звярніце на ласося, тунца і асятра. Выбірайце правільны спосаб гатавання: варыце або запякайце рыбу. Гэта дапаможа захаваць усе карысныя ўласцівасці прадукту. Падавайце рыбу на абед ці вячэру разам з гароднінай.

### 3). Бананы

У бананах ёсць дзіўнае рэчыва трыптафан. Гэта від бялку, які ў арганізме ператвараецца ў гармон радасці сератанін. У выніку ў чалавека падымаецца настрой і паляпшаецца самаадчуванне.

Банан – гэта важная крыніца энергіі. Калі з надыходам халадоў вы пачынаеце ленавацца, то уключыце бананы ў свой рацыён.

**Усяго двух пладоў хопіць на паўтары гадзіны энергічнай работы.**

Гэты фрукт стане выдатным перакусам перад трэнажорнай залай і дапаможа зрушыць горы, калі сілы на зыходзе. Але памятайце, ён загушчае кроў.

### 4). Горкі шакалад

Вы, вядома, ведаеце, што шакалад прыносіць радасць, і толькі радасць. Плітка шакаладу – гэта гарантыя асалоды і задавальнення. Шакалад актывізуе работу мозгу, ліквідуе сімптомы дэпрэсіі і зараджае энергіяй.

Толькі выбірайце не малочны, бо ён хоць і падымае настрой, але яшчэ і адкладваецца на таліі і сцёгнах, а горкі. Ён самы карысны і пажыўны. Глядзіце, каб утрыманне какавы было вышэй за 75%.

### 5). Зялёная агародніна

Такая агародніна – каштоўная крыніца вітамінаў групы B, клятчаткі, арганічных кіслот і антыаксідантаў. Таму перавага ў рацыёне зялёнай агародніны вядзе да агульнага аздараўлення ўсяго арганізма і падымае настрой.

Да самай карыснай адносяцца ўсе віды капусты, балгарскі перац, шпінат, ліставыя віды салаты, спаржавая фасоля.

### 6). Сыр

Кавалачак сыру тлустых гатункаў здольны тварыць сапраўдныя цуды. І хоць сыр дастаткова каларыйны, але часам усё ж трэба сябе песціць. Дзве-тры лустачкі за сняданкам вам зусім не нашкодзяць, а прынясуць толькі карысць.

Сыр змяшчае ў сваім складзе не толькі кальцый, але і важныя амінакіслоты, якія адказваюць за пазітыўны настрой, вы будзеце заўсёды ў гуморы.

### 7). Арэхі

Каб быць у выдатным настроі, бадзёрым, ешце арэхі. Невялікай жменькі ў дзень дастаткова, каб задаволіць патрэбнасць арганізма ва ўсіх важных мікра- і макраэлементах, вітамінах.

У арэхах ўтрымліваюцца вітаміны групы B, E, D, а таксама каштоўныя антыаксіданты. Яны не толькі ўмацоўваюць імунітэт, але і актывізуюць работу мозгу, паляпшаюць знешні выгляд (стан скуры, валасоў і пазногцяў).

### 8). Авакада

Авакада – гэта суперфрукт. Ён вельмі карысны і валодае гаючымі ўласцівасцямі. У ім утрымліваюцца поліненасычаныя тлустыя кіслоты амега-3, якія паніжаюць узровень шкоднага халестэрыну ў крыві і ўмацоўваюць імунітэт, а таксама важныя вітаміны і мінералы.

**Авакада ратуе ад восеньскай дэпрэсіі. Відавочны плюс: фрукт валодае высокай каларыйнасцю, але калорыі ператвараюцца ў энергію, а не трансфармуюцца ў тлушч.**

Так што вы не рызыкуеце пагоршыць дрэнны настрой наборам лішняга вагі.

Рыхтуйце з авакада апетытныя сняданкі, дадавайце яго ў салаты і смузі, бярыце з сабой у якасці перакусу. Бадзёрасць, добры настрой і незвычайны зарад энергіі гарантаваныя.

**Аддзел інфармацыі.**

ТЭМА НУМАРА




Падчас трэнінгу па маніторынгу будынкаў, які праводзіўся ў Цэнтры дзённага знаходжання ў Валожыне. Ладзілі яго прадстаўнікі Беларускай асацыяцыі інвалідаў. На здымку Уладзімір Патапенка, Наталля Лазоўская і Сяргей Драздоўскі. Фота забяспечанае Ганнай РАЖАНЦОВАЙ.

# Валожын без бар’ераў, або Як змяніцца горад праз тры гады

ВАЛОЖЫН

**У Валожынскім раёне рэалізуецца праект “Валожын без бар’ераў: Узмацненне магчымасцяў для прапанавання сацыяльных і рэкрэацыйных паслуг людзям з інваліднасцю ў Валожынскім раёне”.**

Пра яго асаблівасці “Рэгіянальнай газеце” расказала менеджар праекта **Ганна Ражанцова.**

– У Валожынскім раёне жыве каля 2100 людзей з абмежаванымі магчымасцямі – гэта каля 6% ад усяго насельніцтва раёна. Але на сённяшні дзень паслугі, якія можа атрымаць звычайны мясцовы жыхар або турыст, для іх недаступныя.

Праект “Валожын без бар’ераў” стартаваў у кастрычніку 2015 года. Адна з яго мэтаў – спрыяць сацыяльнай інтэграцыі людзей з інваліднасцю.

У Валожыне ад 2004 года дзейнічае Цэнтр дзённага знаходжання інвалідаў, а ад 2011 да 2015 года ў раёне праводзілася праграма па пытаннях даступнасці, падчас якой усяго пяць будынкаў абсталявалі пандусамі.

І вось у канцы 2015 года Валожынскі райвыканкам, Беларускае таварыства інвалідаў, беларускае грамадскае таварыства “Адпачынак у вёсцы” сумесна з фондам “Інтэракцыя” ініцыявалі новы маштабны праект.

**Яго бюджэт складае больш за адзін мільён еўра, 90% з якіх дае Еўрапейскі Саюз.**

Праект разлічаны на тры гады.

Мы плануем, што ў выніку праекта каля 20 будынкаў у раёне будуць пераабсталяваныя з улікам патрэбаў людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

У 2018 годзе адкрыецца турыстычны інфармацыйны і рэкрэацыйны цэнтр для людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Цэнтр будзе ўключаць у сябе хостэл на 20 месцаў, канферэнц-залу са спецыяльным абсталяваннем для людзей са слабым зрокам і са слабым слыхам, інфармацыйны пункт.

Яшчэ важна, што ў цэнтры можна будзе не толькі адпачыць. Тут адкрыюцца і новыя працоўныя месцы для жыхароў раёна.

На рэканструкцыі будынкаў змены не спыняцца. У Налібоцкай пушчы будзе пракладзеная экалагічная сцежка.

А сёлета валанцёры і каардынатары праекта правялі паўнавартасны маніторынг будынкаў Валожынскага раёна.

Усяго праверылі 150 аб’ектаў – у першую чаргу гэта будынкі, якія могуць выкарыстоўваць патэнцыйныя турысты з інваліднасцю.

У гэты спіс увайшлі аб’екты транспартнай інфраструктуры, органаў мясцовай улады, культурна-гістарычныя аб’екты, аб’екты сацыяльнай сферы (бібліятэкі, пошты, школы, бальніцы, магазіны), а таксама 18 аграсядзібаў раёна.

Маніторынг праводзілі восем экспертаў – юрысты, сацыяльныя работнікі, спецыялісты ў галіне архітэктуры, аграэкатурызму, прадстаўнікі Беларускага таварыства інвалідаў. Ім дапамагалі гаспадары аграсядзібаў, прадстаўнікі ўлады і грамадскіх арганізацый, журналісты, валанцёры.

Як паказаў маніторынг, большасць з будынкаў маюць добры патэнцыял для таго, каб адаптаваць іх для людзей з абмежаванымі магчымасцямі і пры гэтым пазбегнуць буйных фінансавых выдаткаў. Напрыклад, у некаторых крамах або бібліятэках дастаткова ўсталяваць ці рэканструяваць пандус, пашырыць дзвярны праём.

А ў ліпені гэтага года ўсе партнёры праекта “Валожын без бар’ераў” пабылі ў адукацыйнай паездцы ў Галандыі.

Удзельнікі ўбачылі новыя падыходы ў стварэнні безбар’ернага асяроддзя ў турыстычных зонах і ў паўсядзённым гарадскім асяроддзі. Галандыя была абраная невыпадкова: у гэтай краіне параўнальна нядаўна зарадзіўся бізнес па аказанні турыстычных паслуг людзям з абмежаванымі магчымасцямі, і развіваецца ён вельмі дынамічна.

Сярод удзельнікаў паездкі былі і людзі з абмежаванымі магчымасцямі – старшыня Беларускага таварыства інвалідаў **Уладзімір Патапенка** і яго намеснік **Сяргей Драздоўскі.** Яны маглі ў поўнай меры ацаніць усю інфраструктуру. Напрыклад, наведаць аграсядзібы, пясчаны пляж у Гаазе, скарыстацца арэндай адаптаваных ровараў і крэслаў з электрапрыводам. І нават пратэставаць на даступнасць адзін з гатэляў знакамітай сеткі Hilton ў Амстэрдаме.

Адну з карысных высноў, зробленых у паездцы, агучыў Уладзімір Патапенка, старшыня Беларускага таварыства інвалідаў:

**– Інфраструктуру неабходна ствараць пры ўдзеле людзей, для якіх прызначаная, інакш яна проста не працуе.**

– У бліжэйшых планах праекта – будаўніцтва экасцежкі і турыстычна-інфармацыйнага цэнтра.

А ў 2018 годзе Беларускае таварыства інвалідаў сумесна з усімі партнёрамі запланавала правесці вялікі фестываль сацыяльнай інтэграцыі і летні лагер па яго падрыхтоўцы, – дзеліцца планамі Ганна Ражанцова.

**Наталля ТУР.**

# Зорка з трэнажоркі



## На пытанні адказвае Руслан Дунец

МАЛАДЗЕЧНА

**"РГ" сумесна з фітнес-клубам "Тытан" запусціла праект "Зорка з трэнажоркі".**



Трэнер Руслан Дунец.

Цягам трох месяцаў у газеце трэнер дае парады, як пахудзець, а я, слухаючыся яго ва ўсім, праверу парады на сабе.

Пакуль я змагаюся з чарговымі кілаграмамі, Руслан знайшоў час і адказаў на пытанні чытачоў, якія вы задавалі яму на нашым сайце rh.by.

1.Калі займалася спортам прафесійна (гэта была спартыўная гімнастыка), трэнеры забаранялі нам піць падчас трэніроўкі – каб не булькала ў жываце уся вада пасля. Цяпер, калі хаджу ў залу, іншы трэнер кажа наадварот – а ну піце, а то водны баланс будзе парушаны, і вы мне тут капыты падкідаеце. Дык вось пытанне – піць ці не піць?) **Пытаннечка**

**Руслан:** Канешне, піць. Тут пытанне ў норме. Галоўнае, не піць многа. Кожныя 15 хвілін зрабіць 2-3 глыткі – гэта норма. Тым, хто займаецца фітнесам, бодзібілдзінгам, дадаюць вітаміны, амінакіслоты. Тым самым папаўняючы запас вітамінаў у арганізме, якія непазбежна губляюцца падчас трэніровак.

2. Наколькі пацерпіць сямейны бюджэт, калі муж у дадатак да трэніровак будзе купляць спартыўнае харчаванне? Ці можна абысціся без яго і накачаць мышцы? **Люся**

**Руслан:** Па-першае, заняткі ў трэнажорнай зале – гэта нядорага. А што тычыцца спартыўнага харчавання, то, безумоўна, можна абысціся і без яго. Гэта толькі дадатак. Гэта падман, што калі ты купіш спартыўнае харчаванне, то вынік у цябе ў кішэні. Самае галоўнае ў трэніроўках – гэта дысцыпліна, рэгулярнасць фізічных нагрузак і здаровае харчаванне. Інакш ні адзін трэнер у свеце, ні адно спартыўнае харчаванне вам не дапаможуць.

Калі ж вы хочаце паскорыць вынік, то можна паспрабаваць дадаць у свой рацыён такую яду. А каб зэканоміць на ёй, трэба ўважліва сачыць за акцыямі "Тытана" ў нашых суполках у сацыяльных сетках. Некалькі разоў на месяц мы праводзім розыгрышы і акцыі. І тады такое харчаванне можна купіць літаральна за капейкі. А яшчэ да нас можна прыйсці, і я дапамагу, параю, падбяру яго і па кашальку, і па патрэбах чалавека.

3. Якія практыкаванні можаце параіць для жывата? Астатнія часткі цела мяне задавальняюць. **Алёна.**

**Руслан:** Як доктар не будзе ставіць вам дыягназ і лячыць завочна, так і я не магу сказаць, якія практыкаванні рабіць для жывата. На словах расказваць – гэта няправільна. Ды і не існуе лакальнага спальвання тлушчу. Усё трэба рабіць у комплексе.

Адказы на іншыя пытанні чытайце праз тыдзень.

А пакуль Руслан Дунец падрыхтаваў сюрпрыз для чытачоў "Рэгіянальнай газеты".

*Вы можаце запісацца да Руслана на* ***БЯСПЛАТНУЮ*** *кансультацыю ці трэніроўку. Для гэтага трэба загадзя пазваніць на нумар* ***(8029) 252-7-253****, агучыць пытанне, якое вы хочаце задаць Руслану. І ў сераду ён абавязкова дапаможа вам. Як варыянт, раскажа і пакажа, што рабіць з тым самым праблемным жывоцікам.*

**УВАГА! СУПЕРПРАПАНОВА!**

# Спорт, дзе заўзятары маўчаць

## На "Энве" зладзілі турнір па тэнісе для невідушчых

МАЛАДЗЕЧНА

**Агучаны мячык для гульні. Прамавугольная тэнісная ракетка. І поўная цішыня ў зале. Гэта шоўдаўн, або настольны тэніс для невідушчых.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Падчас гульні ў шоўдаўн развіваецца слых і маторыка.

На прадпрыемстве "Энва" таварыскія сустрэчы па шоўдаўне ладзяць ужо другі раз. Сёлета ў спаборніцтвах удзельнічаюць 11 мужчын і 6 жанчын. Гэта спартсмены з Віцебска, Брэста, Гродна, Слуцка, Мінска, Маладзечна. Такая сустрэча – адно з мерапрыемстваў, што праводзяць у рамках акцыі "Чалавек з белым кійком".

Супрацоўніца "Энвы" **Алена Звяркова** пачала займацца шоўдаўнам два гады таму, калі на прадпрыемстве з'явілася спецыяльнае абсталяванне для гульні. А гэта тэнісны стол, падобны да маленькай хакейнай пляцоўкі, з дзвюма "лункамі", куды забіваюць галы. Таксама патрэбны агучаны мяч, пальчаткі і акуляры. Пальчаткі для таго, каб не пашкодзіць рукі.

Акуляры – каб усе гульцы былі ў роўных умовах. Справа ў тым, што шоўдаўн гуляюць як зусім невідушчыя людзі, так і тыя, хто мае дрэнны зрок. Таму каб ніхто нічога не бачыў, усе надзяваюць цёмныя акуляры, якія не прасвечваюцца.

Адразу, прызнаецца Алена, у гульні мала што было зразумела. Але паступова жанчына захапілася. Цяпер не губляе магчымасці патрэніравацца пасля працы і ў час абедзеннага перапынку. На прадпрыемстве са спартсменамі займаецца трэнер **Аляксей Філіпаў**.

– На сваім досведзе ведаю, што калі спрабуеш як-небудзь падглядзець праз акуляры, то гульня звычайна не атрымліваецца, – прызнаецца Алена.

Жанчына лічыць, што шоўдаўн – магчымасць для невідушчых людзей адчуць азарт і выказаць свае эмоцыі. Гульня – рухомая, актыўная. І што вельмі важна, спрыяе рэабілітацыі невідушчых людзей і тых, хто мае праблемы са зрокам.

У гульцоў развіваецца слых, бо, каб адбіць мяч, яго трэба пачуць. Паляпшаецца каардынацыя руху, маторыка.

Па словах Алены, тут усё, як у спорце. Часам такія жарсці на спаборніцтвах бываюць, быццам на алімпіядзе.

А вось заўзятарам ніякіх эмоцый праяўляць не дазваляюць. У зале, дзе гуляюць у шоўдаўн, павінна быць цішыня. Староннія гукі могуць нашкодзіць гульцам.

У час сэтаў і суддзі маўчаць. Нават трэнер амаль не размаўляе з гульцамі. Ён карыстаецца толькі свістком. Напрыклад, калі трэнер свісне два разы, значыць некаму забілі гол. Усе бурныя пачуцці можна выказаць паміж сэтамі.

У апошні час да гульні далучылася шмат маладых людзей. Хто раз-другі паспрабаваў шоўдаўн, звычайна не могуць адмовіцца ад яго.

На "Энву" прывозяць і дзяцей з праблемамі зроку. Тут для іх ладзяць майстар-класы. Спачатку дзеці назіраюць за гульнёй, потым слухаюць правілы. А пасля спрабуюць гуляць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

**Даведка "РГ".** Шоўдаўн – настольны тэніс для невідушчых і людзей з парушэннямі зроку. Годам стварэння новай гульні лічыцца 1960-ы. Тады калі канадцы Джо Льюіс і Патрык Ёрк прыдумалі спартыўную гульню, у якую маглі б самастойна гуляць невідушчыя людзі і тыя, якія дрэнна бачаць.
Яны напісалі правілы гульні і распрацавалі неабходнае абсталяванне. Першым міжнародным поспехам шоўдаўна стаў яго дэбют як рэкрэацыйнага віду спорту падчас Паралімпійскіх гульняў 1980 года.
У Беларусі пачаў развівацца некалькі год таму. Мэта гульні – адбіць мяч, каб ён, праляцеўшы ўздоўж стала пад раздзяляльным экранам, трапіў у вароты саперніка. Пераможцам становіцца той, хто першым набраў 11 ачкоў, пры розніцы з супернікам не менш за два ачкі. Кожны гулец падае пяць разоў запар. Памылкамі лічацца тыя выпадкі, калі гулец трапляе мячом у экран, губляе яго са стала ці дакранаецца да мяча чым-небудзь акрамя прамавугольнай ракеткі.

Летам буду такі!
Купон на 50% зніжку на ўсе віды абанементаў
Дзейнічае ДА 1 СНЕЖНЯ
(8029) 252-72-53
Маладзечна,
вул. Будаўнікоў, 15-а
пн. – пт. 8:00 – 23:00
вых. 9:00 – 21:00
ЧП "Титан Фитнес" УНП 691894502

# Калі б загалоўкі беларускіх твораў пісалі сучасныя журналісты

**Магчыма, гэта б дапамагло зірнуць на класічную літаратуру новымі свежымі вачамі, а таксама падштурхнула б многіх людзей звярнуцца да беларускай літаратуры і пераасэнсаваць яе.**

Мы прапануем вам перапрацаваныя назвы класічных літаратурных твораў, калі б загалоўкі да іх пісалі журналісты. Паспрабуйце здагадацца, як гучаць арыгінальныя назвы. Дасылайце адказы на электронную пошту regionnews@rh.by. Той, хто дасць правільныя адказы, атрымае пры з ад рэдакцыі.

Адказы ў наступным нумары.

Аднак не трэба ўспрымаць нашу спробу ўсур'ёз, гэта жарт.

**Аддзел інфармацыі.**





ГУ «Минский областной театр кукол «**Батлейка**» приглашает
**18-30 декабря 2016 года, 2-6 января 2017 года**
***«Тайна Снежной королевы»***
(увлекательное новогоднее путешествие по сказкам)

**В ПРОГРАММЕ:**
- Встреча с настоящим Дедом Морозом, Снегурочкой, любимыми сказочными героями;
- Весёлые хороводы, игры, танцы, стихи, песни;
- Сладкие подарки;
- Выступления ваших детей.

Заказ билетов и справки по телефонам: (8-0176) **75-36-73, 76-84-27**
***г. Молодечно, ул. Драздовича, 5 «В»*** УНП 600136804


## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | 3 | | | 5 | | | | |
| | | | 1 | | 8 | | 9 | 2 |
| | | | | | | 7 | | |
| | 9 | 2 | 7 | | | | | |
| 5 | | | | | | | | 1 |
| | | | | | 6 | 9 | 4 | |
| | | 1 | | | | | | |
| 6 | 4 | | 3 | | 5 | | | |
| | | | | 4 | | | 3 | 8 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## АФАРЫЗМЫ

Шчасце на баку таго, хто задаволены.

Кожная мара даецца з сіламі, патрэбнымі для яе здзяйснення. Але табе, магчыма, прыйдзецца папрацаваць.

Кожны хоча жыць на вяршыні гары, але ўсё шчасце, усё развіццё адбываецца, пакуль ты на яе ўзбіраешся.

Тое, што мы бачым, залежыць ад таго, куды глядзіш.




## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

РЭПЕРТУАР НА НА ЛІСТАПАД

**"Маша і Мядзведзь"** (народная казка), *В.Швэмбергер*
20 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
*Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**
УНП 600136804

## Мінскі абласны драматычны тэатр

РЭПЕРТУАР НА ЛІСТАПАД

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**"ГАСТРОЛІ БРЭСЦКАГА АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА ДРАМЫ ІМЯ ЛЕНІНСКАГА КАМСАМОЛА БЕЛАРУСІ**
**"Вясёлы ўдавец"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Сайман Мос*
24 лістапада – у 19:00
**"Гульня кахання і выпадку"** (камедыя ў 2-х дзеях), *П'ер Карле дэ Марыво*
25 лістапада – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
*Маладзечна, вул.Чкалава, 7.*
Кантактныя тэлефоны:
75-29-16 – намеснік дырэктара,
76-17-32 – галоўны адміністратар,
75-24-17 – каса.
E-mail: modt@tut.by.by
Сайт: theatre-modt.by
УНП 600066659


## СМАЧНА ЕСЦІ



### Дыетычны піражок

**Для асновы:** *1 бялок, 80 г молатых аўсяных шматкоў, 3 сталовыя лыжкі вады, карыца.*

**Для начынкі:** *250 г абястлушчанага тварагу, 2 жменькі любімых ягадаў (можна ўзяць фрукты, таксама будзе смачна), 1 бялок, 1-2 ст. лыжкі мёду.*

Молатыя шматкі змяшайце з бялком і вадой. Замясіце цеста. Выкладвайце яго ў форму для выпякання, зрабіце борцікі. Запякайце 10 хвілін пры 180 градусах.

Тым часам для начынкі тварог ператрыце разам з ягадамі (фруктамі) блэндарам. Дадайце бялок і мёд. Яшчэ раз ператрыце блэндарам.

Выліце атрыманую начынку на аснову. Зноў пастаўце ў духоўку і выпякайце 40-45 хвілін пры 180 градусах.

**Проста МАРЫЯ.**

## ГАРАСКОП 18-24 ЛІСТАПАДА

**Авен.** Давядзіце ўсе справы да завяршэння і прысвяціце час дому ў розных сэнсах гэтага слова.

**Цялец.** Успаміны пра мінулае, ваша дзяцінства, сустрэчы з раднёй і вяртанне да сваіх каранёў дазволяць вам знайсці апору ў жыцці, якой так не дастае, каб смела глядзець у будучае.

**Блізняты.** Паклапаціцеся пра камфортныя адносіны ў сям'і, каб мець падтрымку ў цяжкі момант. А яшчэ гэта час учынкаў, што ўмацоўваюць дух, якія потым успамінаюцца з асаблівай гордасцю і за якія не будзе сорамна.

**Рак.** Вы можаце прыдумаць ці нават стварыць штосьці новае і штосьці цудоўнае. І тут неабавязкова быць мастаком ці вынаходцам. Прыўнесці навізну можна і ў звычайнае жыццё.

**Леў.** Для таго, каб у жыцці з'явілася месца для новага і светлага, трэба пазбавіцца ад старога, якое перашкаджае глядзець наперад і бачыць станоўчыя перспектывы. Змяніце свае погляды, адмоўцеся ад непатрэбных звычак.

**Дзева.** Усё, што запланавалі, збудзецца. Але будзьце паслядоўныя ў справах, няспешныя.

**Шалі.** Спрыяльны перыяд для тых, хто хоча пазнаць сябе, хто імкнецца ўбачыць і паспрабаваць нешта большае, чым звыклы для большасці свет.

**Скарпіён.** Прыглядайцеся да ўрокаў, якія дае вам жыццё. Гэта не проста жыццёвыя прыгоды – гэта каштоўныя парады на будучае.

**Стралец.** Вам не хапае дзелавой актыўнасці. Цяпер вы не думаеце, што ўпусцілі тую ці іншую магчымасць, але пазней пачнеце шкадаваць, што не былі рашучымі.

**Казярог.** Для вас перыяд дзіўны, усё перамешваецца і ператвараецца ў тэрмаядзерную сумесь, гатовую ў любы момант узарвацца. А што з гэтага атрымаецца – катастрофа ці шчасце – залежыць ад вас. Вы нагадваеце персанаж з п'есы Чэхава "33 няшчасці". Цярпіце. Пры ўсім тым вы шмат даб'яцеся.

**Вадалей.** У вас будзе прычына адзначаць вынік сваёй дзейнасці і парадавацца таму, чаго вы дасягнулі. Але толькі не актыўнай весялосцю.

**Рыбы.** Цяпер не варта адмаўляць у дапамозе іншым і можна смела разлічваць на тое, што вам таксама дапамогуць, калі такая неабходнасць узнікне.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень

## ● НАДВОР'Е

### 19 лістапада, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +2 / +3 | | +3 / +6 | | +5 / +6 | | +5 / +3 | |
| | 741 | ↑ 6 | 744 | ↑ 6 | 746 | ↑ 5 | 749 | ↑ 7 |
| Вільня | +6 / +6 | | +4 / +6 | | +7 / +7 | | +7 / +7 | |
| | 747 | ↑ 7 | 750 | ↑ 4 | 754 | ↗ 2 | 755 | ↑ 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.50
Захад 17.05
Даўжыня дня 8.15

Усход 22.29
Захад 13.15
Квадра 3




### ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -16,7 °С у 1965 годзе
Максімальная тэмпература +9,8 °С у 2015 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10,6 мм у1966 годзе
Паводле meteoinfo.by

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці адчулі вы, што сёлета Маладзечна было культурнай сталіцай?



**Анатоль Аўдзееў, кіроўца:**
– Ніякіх асаблівых змен не ўбачыў. Хаця, не. Скульптуры нейкія каля Палаца культуры з'явіліся.



**Канстанцін Цыбульскі, паэт-песеннік:**
– Вядома, адчуў. У горадзе на высокім узроўні прайшоў фестываль. Шмат зорных калектываў за гэты год выступала ў Маладзечне. Здаецца, і мой творчы вечар прайшоў нядрэнна. Адчуваю радасць і гонар ад таго, што Маладзечна – мая радзіма.



**Раіса Камінская, медсястра:**
– Не сказала б, што вельмі адчула. Было шмат уласных спраў: праца, лецішча. І ўнукаў дапамагала гадаваць.



**Юлія Цімашэнка, у дэкрэтным адпачынку:**
– Шчыра кажучы, нічога я не адчула. У снежні мінулага года нарадзіла дзіця. Таму ў мяне ўвесь гэты год былі зусім іншыя справы. І ад культуры я была далёка.



**Алеся Кульша, кіраўнік калектыву тэатра песні "Мерыдыян":**
– Я і мой калектыў тэатра песні "Мерыдыян", як ніхто, адчулі. Было шмат канцэртаў, ды і цяпер не менш.



**Ніна Міронава, школьная бібліятэкарка:**
– Асабіста я адчула. Шмат было розных мерапрыемстваў у школах і ў горадзе. Вучням стараліся ўвесь час нагадваць, што наш горад – культурная сталіца. Спадзяюся, і дзеці нашы гэта адчулі.



**Наталля Мішына, дэфектолаг:**
– Для мяне заўсёды Маладзечна было культурным цэнтрам, і сёлета, і ў мінулыя гады.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Мабільныя тэлефоны. Яны трывала ўвайшлі ў жыццё дарослых і дзяцей. У першым класе "мабілка" займае месца ў кожным школьным заплечніку. Наколькі мабільны тэлефон патрэбны вучню? Ці могуць дзіцяці ў школе забараніць карыстацца мабільнікам? Што на гэты конт думаюць бацькі, настаўнікі, псіхолагі і самі вучні.**

## ● "НЕ ГУБЛЯЙ НІВОДНАГА ДНЯ"



Маленькі Саша Жукавец падчас аднаго з падарожжаў. Яго тата і мама любяць актыўнае і цікавае жыццё, шмат падарожнічаюць. Іх дэвіз: "Рух – гэта жыццё".

Фота забяспечана Сяргеем ЖУКАЎЦОМ.

ЧАСТНОПРАКТИКУЮЩИЙ ВРАЧ ПСИХОТЕРАПЕВТ
СУРОВЦЕВ Николай Викторович
• Консультирование
• Психотерапия панических атак, тревоги, депрессии, психосоматических, поведенческих и других невротических расстройств
• Гипнотерапия
• Психотерапия алкогольной зависимости
• Кодирование
г. Молодечно ул. Будавников 4а каб. 35
+375 44 4562546
www. psyhoterapia.by
postmaster@psyhoterapia.by
Лицензия МЗ РБ № 02040/76638 от 30.10.2013г. Срок действия по 30.10.2023 г.
ИП Суровцев Н.В. УНП 691513732

РЕАЛИЗУЕМ:
• доска пола
• балка
• брус
• строительная система
любых сечений
Доставка.
Тел. (8-029) 631 15 70
ЧУП «Пумолес» УНП 590974832

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№47 (1125) 18.11.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1122 . Падпісана ў друк у 9.00 17.11.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.